PL ISSN 0546-1960
NR INDEKSU 366714

# Ніва

ТЫДНЁВІК БЕЛАРУСАЎ У ПОЛЬШЧЫ

№ 23 (2143) Год XLII Беласток 8 чэрвеня 1997 г. Цана 1 зл.

# На фэсце ў Жыровічах

Мікола Ваўранюк

**У Беларусі яшчэ ў шасцідзесятыя гады, за Хрушчова, узрывалі цэрквы. — Камуністы ўсё гэта рабілі, — гаворыць ля цудатворнай крыніцы ў Жыровічах жанчына з-пад Полацка, — знішчалі храмы, апаганьвалі крыжы, ваявалі з рэлігіяй, а самі толькі гэтаму паразіту Леніну маліліся.**

Белыя сцены святыні між майскай зеленню дрэў і блакітам веснавога неба відаць здалёк, амаль з самага Слоніма. Гэта Крыжаўздзвіжанская царква — адна з трох у комплексе Жыровіцкага манастыра — пабудаваная ў XVIII стагоддзі як каталіцкі касцёл, з высокай спічастай званіцай, да таго яшчэ на ўзгорку.

Галоўным храмам і сэрцам манастыра з'яўляецца Успенскі сабор, пабудаваны ў палове XVII і перабудаваны ў класіцыстычным стылі ў пачатку XIX стагоддзя. Стаіць на асфальтаванай плошчы, з роўна пакладзенымі і чыста падмеценымі перад святам ходнікамі. Плошча называецца Савецкая. Так як і галоўная вуліца ў мястэчку.

Жыровічы, гэта недзе трохтысячны пасёлак, які вырас калісьці вакол манастыра і можа ганарыцца магдэбурскім правам у мінулым. У савецкі час, які пачаўся тут пасля вайны — цэнтр саўгаса, сядзіба сельсавета. Размяшчаецца на вельмі маляўнічай узгоркавай тэрыторыі, непадалёк даліны рэчкі Шчары. Аднак усе спробы паказаць прыгажосць зямлі на фатаграфіі аказаліся безвыніковымі — у аб'ектыў заўсёды ўлазіў то нейкі шкарадны хляўчук, то напаўразвалены плот ці закопчаная труба коміна невядомага прызначэння і несуразмерная з велічынёй пасёлка. Асфальт, ходнікі, парадак не расцягваюцца далёка за цэнтр.



*Адраджэнне рэлігійнасці сярод моладзі.*



*Сэрца манастыра — Успенскі сабор.*

20 мая адзначаецца свята іконы Жыровіцкай Божай Маці, на памятку яе з'яўлення на грушы. Ікону ўбачылі пастухі вяльможы Аляксандра Солтана, які на гэтым месцы паставіў драўляную царкву. Кажуць, што карані тае грушы і сёння захоўваюцца пад Успенскім саборам пад цудоўнай каменнай іконай велічынёю ў дзіцячую руку, умацаванай каля галоўнага алтара.

Дата з'яўлення абраза няпэўная. Адны (галоўным чынам, каталікі) мяркуюць, што было гэта ў 1470 годзе, другія (праваслаўныя схіляюцца да гэтай версіі) — што ў 1494. Вядомы затое год пажару драўлянай царквы — 1520 — у час якога ікона прапала. Паявілася зноў праз колькі гадоў блізу таго самага месца, на камені. Трымала яе ў руках сама Маці Божая. Цяпер гэты камень у сярэдзіне трэцяй царквы манастыра — Богаяўленскай.

**Адраджэнне ці мода**

Напярэдадні свята ў Жыровічах не шмат паломнікаў. Пад'ехала некалькі аўтобусаў, галоўным чынам, з Берасцейшчыны, дзе праваслаўе ў Беларусі наймацнейшае. Людзі заказваюць у царкве малітву за здароўе, купляюць свечкі, набіраюць жыватворную ваду з крыніцы, якая прабілася ў парослай вольхамі лагчыне, кіламетраў два ад манастыра. Другая крыніца пад саборам, але ўваход туды адчыняюць толькі раз у год.

Галоўную святочную літургію правіць мітрапаліт Менскі і Слуцкі Філарэт. У сабор не ўбіцца. Навонкі нічога не чуваць, бо няма ніводнага гукаўзмацняльніка. Каля ўвахода збіраюць ахвяры на пабудову царквы — стаіць група жанчын вакол скарбонкі і спявае набожныя песні.

— Мы з-пад Івацэвіч, — расказваюць, — вёска ў нас вялікая, але ў царкву далёка, дык мы рашылі пабудаваць. Старшыня калгаса нам дапамагае, вось і цяпер даў аўтобус, каб мы сюды прыехалі.

Збіраюць на цэрквы і з іншых мясцовасцей. З блізкага Слоніма, дзе пачалі адбудоўваць узарваную саветамі пасля вайны вялікую царкву ў цэнтры горада. Сястра збірае грошы на царкву ў псіхіятрычнай бальніцы ў Менску. Сярод старэйшых бабак заўважаецца немалая колькасць моладзі. Дзяўчаты ўсе ў хустках.

— Наглядаем цяпер вялікае зацікаўленне рэлігіяй, — кажа семінарыст Ян. — Прыязджае да нас многа школьных экскурсій. Я не ведаю, ці гэта мода, рэакцыя на гады забароны, ці з пачуцця сэрца знайсці дарогу да Бога.

— Палякам лягчэй вяртаць касцёлы, — жаліцца жанчына з ваколіц Смаргоні, — Польшча ім дапамагае і Ватыкан. А нам?

— Беларусы самі вінаваты, — падключаецца паломніца з Вілейкі, — самі сваімі рукамі і разрушалі цэрквы. У нас перад вайною пан Багдановіч, католік, даў грошы на царкву. То потым свае атэісты крыж скідалі, на склад перарабілі.

**Свая ўлада найлепшая**

— У гэтым годзе чамусьці намнога менш людзей, чымсьці раней бывала, — дзівуюцца мясцовыя. — Ці то пасяўная з-за халоднай вясны зацягнулася, ці дарога стала дарагая.

Сапраўды, хаця ў саборы поўна, але не параўнаць гэтага з колькасцю народу, які збіраецца ў нас на Грабарцы. Ды і няма чагосьці такога, як арганізаваныя пешыя паломніцтвы.

[працяг ☞ 9]

# Адбыўся кангрэс БДА

Галоўнымі пытаннямі IV Кангрэса Беларускага дэмакратычнага аб'яднання (БДА), які 24 мая прайшоў у Беластоку, сталі ўзаемаадносіны партыі з Беларускім саюзам ды пазіцыя БДА ў парламенцкіх выбарах. Кангрэс прыняў пастанову аб падтрымцы кандыдату Беларускага саюза ў паслы Яўгену Вапу, які кандыдуе са спіска Уніі працы, а таксама падтрымаў пратэст Беларускага саюза ў справе маніпуляцыі ў беластоцкім тэлебачанні. Старшынёю БДА кангрэс выбраў Пятра Крука, які функцыю гэту выконвае будзе другую кадэнцыю. Каардынатарам Краёвай управы БДА стаў Пятро Юшчук, яго намеснікам — Юрка Шульскі.

Адкліканне ўлад БДА — старшыні і Галоўнай рады — у ніводнага з дэлегатаў кангрэса не выклікала супраціву. Адбылася дыскусія над пытаннем працы Краёвай управы і яе каардынатара — функцыю гэту выконваў Уладзімір Пац. Дэлегаты згадзіліся, што Краёвая ўправа не працавала так як трэба, але канчаткова адклікалі і кіраўніка гэтага органа. Найбольш змястоўная дыскусія прайшла над справамі, якія, здавалася б, даўно ўжо былі вырашаны і закрыты для ўсенароднага абмеркавання. Самая істотная з іх — удзел у найбліжэйшых парламенцкіх выбарах. БДА, як арганізацыя-ўдзельнік Беларускага саюза, на з'ездзе Саюза падтрымала кандыдатуру Яўгена Вапы, які за месца ў Сейме выступаць будзе са спіска польскай партыі Унія працы. У час кангрэса справа гэтая зноў вярнулася на агульнае абмеркаванне. Для БДА прапанаваўся ўдзел у выбарчым камітэце агульнаславянскай асацыяцыі дзеля прамоцыі супольнага кандыдата ў Сенат. Паколькі аднак з прамоцыяй кандыдата ў Сенат не звязаны ніякія працэдурныя аблягчэнні для нацыянальных меншасцей, дык узнікла тут пагроза, што ўдзел БДА у агульнаславянскай структуры патрабуецца выключна дзеля прамоцыі славянскім камітэтам свайго кандыдата ў Сейм. У такой сітуацыі канфлікт з ранейшымі дамоўленасцямі Беларускага саюза і БДА быў бы непазбежны.

Уладзімір Лукошык з Гарадка, які ўзяў голас у дыскусіі, згадзіўся, што выбар Уніі працы як выбарчага саюзніка для БДА і Беларусага саюза трапны. Сказаў таксама, што гэтае выбарчае пагадненне трэба пацвердзіць пастановай кангрэса, а энергію ўдзельнікаў БДА накіроўваць не на пустую дыскусію, а на прапагандаванне беларускага кандыдата на спіску Уніі працы. Пастанову такую кангрэс прыняў.

Беларускае дэмакратычнае аб'яднанне ўзнікла 10 лютага 1990 г. у Беластоку. З таго часу партыя адзначала сваю прысутнасць у выбарах як парламенцкага, так і тэрытарыяльнага ўзроўняў. Выбарчыя кампаніі БДА праводзіла самастойна і ў кааліцыях. За апошнія два-тры гады на польскай палітычнай сцэне адбылася адна істотная змена — крышталізацыя асноўных палітычных плыняў ды маргіналізацыя і выпаданне з гэтай сцэны ўсякіх маленькіх партый. БДА дзеля захавання значэння і голасу ў беларускіх справах у рэгіёне прымушана ўпісацца ў найбольш прыхільную справам беларусаў агульнапольскую плынь.

Аляксандр Максімюк

# Мы прачыталі

*Choć białostocki ośrodek telewizyjny działa zaledwie kilka miesięcy, to już, przynajmniej dwukrotnie, dał dowód, że potrafi wykorzystać publiczne środki do walki ze swoimi krytykami. Niedawno dyrektor programowy ośrodka Wojciech Worotyński zorganizował konferencję prasową, która miała być sądem nad Związkiem Białoruskim. Obszerne oskarżycielskie wystąpienie dyrektora Worotyńskiego odebrały chęć do otwartej wymiany poglądów. Przedstawiciel Związku Białoruskiego Oleg Łatyszonek polemizował z dyrektorem, inni zaproszeni goście wypowiedzieli się po razie — w żadnym wypadku nie było to żadną dyskusją. Worotyński zaraz po konferencji zapowiedział, iż materiału nie puści na antenę. Jednak pojawił się, spreparowany w ten sposób, że pokazywał całkowity triumf dyrektora nad niemrawym przedstawicielem Związku, który wyraźnie nie miał nic do powiedzenia. Widz, nie zorientowany w istocie konfliktu, mógł obejrzeć dzielnego dyrektora TV, który bohatersko broni polskiego telewidza przed brutalną ekspansją miejscowych Białorusinów.*

*Kurier Poranny, nr 116*

І хто сказаў, што ў Беластоку няма нічога беларускага. Нават тутэйшае тэлебачанне бярэ найлепшыя прыклады і карыстаецца дасягненнямі мінскага тэлецэнтра. Чым у сапраўднасці розніца творчасць Войцеха Варатыньскага ад Юрыя Азаронка ці палкоўніка Замяталіна?

* * *

*Цяжка нават уявіць, наколькі шчаслівейшай была б наша Беларусь, калі б апошнія 200 гадоў магла жыць самастойным, свабодным і незалежным жыццём. Але лёс, гісторыя не давалі нам такога шанцу, атрымалі мы яго толькі цяпер. Не на доўга. Пасля пару гадоў самастойнасці зноў пачалі інтагравацца. Цану інтаграцыі з Расіяй мы ўжо мелі магчымасць пазнаць за мінулыя 200 гадоў. Прадаёмся цяпер за нафту і газ. Але іх жа за грошы купляюць. Ці мы не ўмеем зарабіць і таму гандлюем сваёй свабодай, гонарам, сумленнем? Расіі патрэбна „Белоруссия" як тэрыторыя, калідор, вакно ў Еўропу, ядзерны шчыт, „талерантны, працавіты народ", камуністам аднавіць былы Савецкі Саюз, а нашаму галоўнаму інтагратару Лукашэнцы — яго узначаліць.*

*Літаратура і мастацтва, н-р 19*

* * *

*Odbył się właśnie zjazd założycielski Białoruskiego Patriotycznego Związku Młodzieży, zwanej w Mińsku „Łukomem", bowiem prezydent od dawna dążył do utworzenia powszechnej organizacji na wzór Komsomołu. Szef prorządowej młodzieży Wsiewołod Janczewski jest do tego stopnia zafascynowany Łukaszenką, że w swoim wystąpieniu słowa „prezydent" użył 40 razy, zaś o Białorusi nie wspomniał ani razu. Wcześniej był działaczem rosyjskiego szowinistycznego ugrupowania Sobór Słowiański — Biała Ruś.*

*Gazeta Wyborcza, nr 117*

* * *

*Astrolodzy i wróżbici przewidują, że już niebawem rosyjskim niedźwiedziem wstrząsną wielkie rewolucyjne przemiany. Nadejdzie czas smutku i łez, zapanuje rozgardiasz i chaos. To potrwa rok. Potem władzę przejmie człowiek znikąd. Po dwóch latach Rosja stanie na nogi, a do głosu dojdzie prawica z klerem na czele. Zacznie się budowanie cerkwi. Borys Jelcyn stoi już jedną nogą w grobie. Jego obecność na Kremlu hamuje apetyty co bardziej krwawych watażków. O spadek po Jelcynie od lat ostrzy sobie zęby Aleksander Łukaszenko, żądny władzy prezydent Białorusi. Ma on jednak niewielkie szanse, gdyż potężni ludzie w Rosji nigdy do tego nie dopuszczą.*

*Gwiazdy mówią, nr 20*

* * *

*Расія скарыстае Рыгоравіча, прыбярэ да сваіх рук рэспубліку, і паспрабуе скінуць яго з займаемай пасады пад лозунгам абароны інтарэсаў беларусаў, над выглядам вызвалення беларускіх людзей ад дыктатара.*

*Свабода, н-р 50*

Наш рэдакцыйны астролаг не прадбачвае на палітычнай карце Усходу ніякіх змен!

* * *

*З сумам згадваем пра сучасныя беларускія школкі ў Вільні, класы ў Вісагінасе, Рызе, беларускую адукацыю на Беласточчыне. Калі тут, на Беларусі, супраць беларускай школы поўным ходам ідзе сапраўдная ўзаконеная вайна, ім там цяжка. Ворагі беларушчыны добра разумеюць: хочаш знішчыць нацыю — забяры ў яе нацыянальную адукацыю.*

*Літаратура і мастацтва, н-р 19*

* * *

*Статут Саюза Беларусі і Расіі выяўляе асноўны паказчык палітыкі кіраўніцтва нашай дзяржавы — павышэнне ўзроўню жыцця народаў.*

*Звязда, н-р 80*

Это очень хорошо, что будет лучше!

* * *

*Нас много, а будет еще больше,* — заяўляе

*Народная газета, н-р 94*

І як тут грамадзяніну Беларусі не глядзець з аптымізмам у будучыню. Хапае прачытаць загалоўкі ў прэзідэнцкай прэсе, а зразу свет робіцца прыгажэйшым.

# З мінулага тыдня

**Палітыка ізаляцыі Беларусі** будзе памылкай, — заявіў на прэс-канферэнцыі ў Кіеве прэзідэнт **Аляксандр Квасьнеўскі**, які пабываў на Украіне з афіцыйным візітам. — Мы не зусім разумеем беларускую палітыку, але выступаем за супрацоўніцтва з Беларуссю, улічваючы яе важнае значэнне для еўрапейскай супольнасці, — сказаў ён. У сваю чаргу прэзідэнт Украіны **Леанід Кучма** заявіў аб тым, што не выключаецца магчымасць трохбаковай сустрэчы кіраўнікоў дзяржаў Украіны, Польшчы і Беларусі, але гэта будзе залежыць ад таго, як будуць развівацца падзеі.

**У канстытуцыйным рэферэндуме** большасць галасуючых грамадзян Польшчы зацвердзіла ўхваленую Сеймам і Сенатам новую канстытуцыю ІІІ Рэчы Паспалітай. 25 мая на выбарчыя ўчасткі прыйшло 42,86% маючых права на галасаванне. За прыняццё новай канстутуцыі выказалася 52,71% галасуючых, а супраць — 45,89%. У Беластоцкім ваяводстве галасавала 48,3% дарослага насельніцтва, з якіх ліку 44,77% падтрымала новую канстытуцыю, а 52,23% выказалася супраць.

**Дэлегацыя Маскоўскага Патрыярхату** па справах ваеннага душпастырства ў Расеі на чале з епіскапам Краснагорскім **Савам** пабывала ў Польшчы па запрашэнні Міністэрства нацыянальнай абароны і праваслаўнага ардынарыя Войска Польскага ген. архіепіскапа **Савы**. Госці знаёміліся з дзейнасцю і структурамі Праваслаўнага ардынарыята ў Войску Польскім, наведалі між іншым Беласток і Супрасль.

Працягваецца рэканструкцыя **Дабравешчанскай царквы ў Супраслі**. З нагоды святкаванняў у гонар Іаана Багаслова адбылася ўрачыстасць пасвячэння крыжоў на адноўленых ужо чатырох нарожных купалах абарончага храма.

**Канферэнцыя духавенства Беластоцка-Гданьскай епархіі** ў Беластоку, апрача падсумавання душпастырскай працы, займалася таксама арганізацыйнымі справамі, між іншым разбудовай Епархіяльнага цэнтра, добраўпарадкавання будынкаў Супрасльскага манастыра для патрэб асяродка міласэрнасці і манаскага выдавецтва. Закраналіся таксама пытанні прысутнасці Царквы ў сродках масавай інфармацыі з улікам новастворанага тэлецэнтра ў Беластоку.

**IV Прэзентацыі маладзёжных духавых аркестраў** адбыліся ў Беластоку. У аглядзе прымала ўдзел 14 аркестраў, у тым ліку па адной з Ліды (Беларусь) ды Смаленска (Расея) і аж чатыры з Беластока.

**Мота '97** — так называўся IV матарызацыйны кірмаш, які праходзіў у Беластоку. Наведала яго каля 10 тысяч чалавек. З ліку 45 аўтамашын у плебісцыце публікі першае месца заваяваў „Пэжо 406 купэ". У кірмашы ўдзельнічалі 104 фірмы з усяе краіны. Мерапрыемства наведалі таксама гаспадарчыя місіі з Беларусі, Латвіі, Літвы і Расеі.

**У Беластоцкім ваяводстве** выходзіць каля 120 перыядычных лакальных выданняў (столькі найменняў атрымоўвае Ваяводская публічная бібліятэка). Большасць перыёдыкі (70 найменняў) выдаецца школамі, таварыствамі, прыходамі і рознымі фірмамі ў самім Беластоку. Астатнія часопісы выдаюцца гмінными ўстановамі і арганізацыямі.

**Паліцыя** злавіла двух злодзеяў, якія з праваслаўнага могільніка пры вул. Высоцкага ў Беластоку выносілі вянкі, штучныя кветкі і зніч. 18- і 19-гадовы юнакі ад даўжэйшага часу на золаку абкрадалі магілы з аздобаў, каб удзень прадаваць іх на ларках каля іншых могільнікаў.


## Неўзабаве ў „Ніве"

- Нацыянальныя меншасці ў Польшчы і іхнія праблемы.
- Дні Бельска-Падляшскага.
- Закончыўся Фестываль царкоўнай музыкі.


# Весткі з Беларусі

**Падпісанне саюзнага статута**

23 мая ў Маскве прэзідэнтамі Расеі і Беларусі падпісаны быў статут Саюза абедзвюх краін — дакумент, які юрыдычна замацоўвае ўсе інтэграцыйныя працэсы паміж Беларуссю і Расеяй. У Менску ўлады з гэтай нагоды арганізавалі мітынг прыхільнікаў інтэграцыі. Удзельнікі мерапрыемства цалкам падтрымалі намаганні кіраўнікоў абедзвюх дзяржаў па збліжэнні братніх народаў.

**Меркаванні апазіцыі**

Сямён Шарэцкі — былы старшыня датэрмінова распушчанага Вярхоўнага Савета лічыць, што „з пятніцы ў сітуацыі беларускага і расейскага народаў у прынцыпе нічога не зменіцца". Кіраўніцтва Беларускага народнага фронту паўстанне Саюза Расеі і Беларусі аднадушна расцаніла як „чарговую перамогу Масквы ў яе палітыцы пазбаўлення Беларусі незалежнасці". Антыінтэграцыйная дэманстрацыя ў цэнтры Менска абмежавалася да спалення расейскага дзяржаўнага сцяга і воклічаў „Жыве Беларусь!". Удзельнічала ў ёй каля 200 чалавек, галоўным чынам моладзі.

**Медалі для афіцэраў**

У Менску прайшоў першы афіцэрскі сход Узброеных Сіл Беларусі, на якім абмяркоўвалася пытанне аб гонары і годнасці афіцэрскага корпуса. На думку прэзідэнта Аляксандра Лукашэнкі, статус афіцэраў трэба не толькі падтрымліваць, але ўвесь час падымаць на больш высокі ўзровень. Ваенныя поспехі дасягаюцца штодзённай цяжкай працай афіцэраў. Групе афіцэраў Аляксандр Лукашэнка асабіста ўручыў першыя беларускія медалі „За адвагу".

**Міжнародная выстава**

З 23 мая па 20 чэрвеня ў менскай галерэі „Шостая лінія" праходзіць міжнародная выстава праектаў сучаснага мастацтва „Традыцыі і эксперыменты". Яна падрыхтавана разам з Польскім культурным інстытутам. Экспануюцца тут работы больш чым дваццаці мастакоў.

**Творчы юбілей**

У Дзяржаўным літаратурным музеі імя Янкі Купалы ў Менску прайшла вечарына, прысвечаная 70-годдзю творчай дзейнасці лаўрэата дзяржаўнай прэміі рэспублікі, выдатнага паэта, публіцыста, празаіка Сяргея Грахоўскага. У мерапрыемстве ўдзельнічалі навучэнцы Рэспубліканскай школы мастацтваў, настаўнікі-беларусазнаўцы — удзельнікі курсаў павышэння кваліфікацый пры Белдзяржуніверсітэце, студэнты Педагагічнага вучылішча і Педагагічнага універсітэта імя Максіма Танка, ансамбль „Ядрыца" Нацыянальнага беларускамоўнага сада Заводскага раённага аддзялення нацыянальнай адукацыі ў Менску.

**Ушанаванне Шырмы**

Сёлетні фестываль харавога мастацтва „Ляці наша песня" прысвечаны быў 150-годдзю з дня нараджэння Рыгора Шырмы. 25 мая ў Пружанах, каля дзіцячай школы мастацтваў, яму быў адкрыты помнік, а затым на адкрытай пляцоўцы ў мясцовым парку адбыўся заключны канцэрт фестывалю.

**Вечарына ў гонар паэта**

75-годдзе з дня нараджэння вядомага беларускага паэта на эміграцыі Алеся Салаўя адзначылі на вечарыне ў менскім Доме літаратара. Вядучы, паэт Міхась Скобла, прадаставіў слова пісьменнікам і паэтам, а ў выкананні артыстаў прагучалі вершы Алеся Салаўя і песні на яго словы.

**Міцкевічаўская канферэнцыя**

У Гродне абдылася міжнародная канферэнцыя „Адам Міцкевіч і ўсясветная культура". Яе ўдзельнікамі былі вучоныя з Беларусі, Расеі, Польшчы, Літвы і іншых краін. Акрамя пленарных пасяджэнняў і працы ў секцыях яны наведалі месцы, звязаныя з жыццём і творчасцю паэта, двухсотая гадавіна з дня нараджэння якога будзе шырока адзначацца ўсясветнай грамадскасцю ў снежні наступнага года.

**Рост наркаманіі**

У Магілёўскай вобласці значна павялічылася колькасць злачынстваў, учыненых пад уплывам наркотыкаў. За тры апошнія гады ўзрасла яна з 57 да 115 выпадкаў. Усё больш рэгіструецца наркаманаў. Летась у вобласці пастаўлена на ўлік 210 чалавек.

# Каб мы спалі спакойна

Ужо традыцыяй стала, што шматлюдная сям'я пажарнікаў штогод у маі адзначае сваё свята. Пры камуне Дзень пажарніка неразлучна спалучаўся са святочным адкрыццём Тыдня супрацьпажарнай аховы. З гэтай нагоды ў многіх мясцінах арганізаваліся фэсты, святочныя вечарыны. Кожнае такое мерапрыемства давала магчымасць паказаць пажарнікам дасягненні сваёй каманды, паколькі ў час фэстаў арганізаваліся спаборніцтвы на найлепшую каманду ў раёне, ваяводстве і ў маштабе краіны.

У ходзе дзён супрацьпажарнай аховы грамадская „тройкі" праводзілі кантроль сялянскіх гаспадарак. Памяталі аб гэтым самі пажарнікі, чыноўнікі дзяржаўных устаноў і грамадства, і таму ўжо намнога раней усе рыхтаваліся да майскіх мерапрыемстваў — скрупулёзна і з належнай пашанай.

Зараз усё адмянілася.

Пры новым парадку пажарнікі вярнуліся пад апеку святога Фларыяна, свайго заступніка і таму цяперашняе свята адзначаюць у дзень патрона, гэта значыць 4 мая.

Не было ў гэтым годзе ні святочных вечарын, ні фэстаў, толькі ў сталіцы вярхушка традыцыйна адзначыла гэтую нагоду, аб чым мы змаглі даведацца з тэлебачання.

У глыбінцы пажарнікі адзначалі сваё свята ціха і ў сямейным крузе.

Наведаў я нядаўна Гайнаўскую пажарную раённую камендатуру. Захацелася мне пазнаёміцца з буднямі гэтых людзей, якія не зважаючы на небяспеку ў час пажару, выратоўваючы іншых, безупынна нясуць варту за тое, каб мы спалі спакойна.

Вось што мне сказаў начальнік падраздзялення Гайнаўскай пажарнай каманды старшы аспірант **Уладзімір Ляўчук**:

— У гэтым годзе сабраліся мы 2 мая на святочным зборы, каб адзначыць сваё свята. Былі зачытаны прозвішчы тых, хто атрымаў павышэнні ў званні пажарніка. Выдатнікам уручылі ведамасныя медалі і ганаровыя граматы.

У маім падраздзяленні восем пажарнікаў атрымалі такія павышэнні і шэсць асоб узнагародзіліся „Медалямі за заслугі для пажарніцтва".

— Скажыце, калі ласка, — звяртаюся я да свайго суразмоўцы, — ці не змаглі б вы паказаць нейкі выдатны эпізод са сваёй службы?

— Хадзіць далёка не трэба, — гартаючы дакументы ў службовай папцы, гаворыць начальнік Ляўчук. — 11 лютага гэтага года нас паведамілі, што ў кватэры жылога корпуса па вуліцы Рэя ўспыхнуў пажар. Была гадз. 19.48. Каманда пажарнікаў узначальваемая аспірантам Янкам Карбоўскім маланкава апынулася на месцы пажару. Пажарнікі паламалі дзверы і вынеслі ўчадзелага ўласніка кватэры. Хуткая дапамога завезла яго ў бальніцу і такім чынам выратавалася чалавечае жыццё.

Сумнейшае здарэнне, — працягвае мой субяседнік, — мелі мы дзевятнаццатага красавіка г.г., калі гэта ў жылым памяшканні па вуліцы Падлясе ў Гайнаўцы ў пажары загінулі тры асобы. Запозна быў заўважаны пажар і пажарнікі не мелі ніякага ўжо шанцу выратаваць людзей.

— Як доўга вы працуеце пажарнікам?

— Калі я закончыў Школу харунжых пажарнікаў у Познані ў 1974 годзе, мяне рэкамендавалі на працу ў Гайнаўскай камендатуры. Пачаткова назначылі малодшым інспектарам па аперацыйна-навучальных справах. Пасля трохгадовай стажыроўкі павысілі мяне ў званні і я стаў працаваць старшым інспектарам па папераджальных справах. На гэтай пасадзе працаваў я семнаццаць гадоў. Калі ў 1992 годзе пачалася ў нашым ведамстве рэарганізацыя, мяне назначылі начальнікам падраздзялення, дзе і па сённяшні дзень працую.

— Колькі штатных пажарнікаў налічвае Гайнаўская каманда і якія праблемы маеце ў сваёй працы?

— У мяне 31 пажарнік. Прытым дзве асобы з'яўляюцца працаўнікамі „васьмігадзіннымі" (апрача мяне яшчэ адна асоба). А праблемаў заўсёды хапае. Хацелася б, каб наша каманда была лепш аснашчана сучаснай тэхнікай. Цяпер маем тры тушыцельныя аўтамабілі, адзін з іх прызначаны для тэхнічнага паратунку і адзін гідраўлічны пад'ёмнік.

Апошнім часам нам купілі пнеўматычныя пракладкі для ўшчыльнення цыстэрнаў для газу. Фінансавыя сродкі для гэтага мы атрымалі ад сваіх спонсараў.

— Як часта прыходзіцца вам выязджаць да пажараў?

— За мінулы год — 173 разы, у тым ліку 148 для тушэння вогненнай стыхіі і 25 для паратунку пацярпелых у дарожных аварыях.

Тэрыторыя дзейнасці нашай каманды даволі разлеглая. Да канца мінулага года мы абяспечвалі тэрыторыю дзевяці гмінаў. Калі з пачаткам гэтага года арганізавалася адзінка Дзяржаўнай пажарнай каманды ў Чаромсе, тры гміны (Чаромха, Кляшчэлі і Дубічы-Царкоўныя) адышлі з-пад нашай апекі.

— Кажуць, быццам мая спыніцца перавозка газавых цыстэрнаў праз чыгуначную Семяноўку?

— Гэтага ніхто дакладна не ведае. Ужо цяпер менш газу перавозіцца чыгункай. Многія карыстаюцца аўтамабільным транспартам. І да гэтага ў нас вялікія засцярогі. Часта бывае, што шафёры цыстэрнаў з газам пакідаюць свае машыны на вуліцы і ідуць звычайна на рынак. Гэта стварае небяспеку, што нехта можа пашкодзіць цыстэрны з грузам. Таму намагаемся, каб адпаведныя органы вызначылі дарогу пераезду для такіх аўтамабіляў праз наш горад.

— Маглі б вы назваць прозвішчы ветэранаў-пажарнікаў вашай каманды?

— Кадры ў нас не такія ўжо старыя. У сярэднім узрост не перавышае 35 гадоў. А найдаўжэй працуюць Мікола Дзмітрук, Янка Карбоўскі, ну і я.

— Чаго вам пажадаць у далейшай працы? — завяршаючы нашу размову, пытаюся ў спадара Уладзіміра Леўчука.

— Чаго нам трэба?.. Менш пажараў, вядома, і большай свядомасці ў грамадстве.

— І менш фальшывых званкоў на трывогу, — дадае сядзеўшы побач нас пажарнік.

— Зараз у нас адзін садом ды гамора з сігнальнай лініяй тэлефона 998. Дзецюкі і падлеткі карыстаюцца бясплатным тэлефонам і проста забаўляюцца. Амаль кожны дзень маем больш пяцідзесяці такіх фальшывак. А самае сумнае ў тым, што непатрэбна блакіруецца лінія. Калі б у сапраўднасці нехта патрабаваў дапамогі, у той час не дазвоніцца да нас, бо нейкі дзяцюк сабе забаўляецца...

Сумная гэта праўда. Аднак, праўда! Таму трэба сказаць бацькам і настаўнікам школьнікаў гайнаўскіх школ: Падумайце, даражэнькія, над гэтым добра і прывядзіце да розуму сваіх выхаванцаў. Няхай не забаўляюцца больш пажарным сігнальным тэлефонам 998! Бо можа так здарыцца, што праз легкадумнасць нейкага падлетка страціць жыццё чалавек.

**Уладзімір Сідарук**

# Ад дрожак да аўтобуса

**Уладзіслаў Камарчук — сёння 57-гадовы пенсіянер, жыхар Беластока, амаль трыццаць гадоў правёў за рулём аўтобуса. Калісьці яго бацька Станіслаў вазіў пасажыраў дрожкамі — лёгкім адкрытам конным экіпажам. Сёння так ён ўспамінае сваю працу і развіццё пасажырскай камунікацыі:**

— Мой бацька працаваў рамізнікам у яўрэя ў Гайнаўцы. Летам вазіў ён пасажыраў з чыгуначнага вакзала ў горад і назад дрожкамі, а зімою — санямі. У час нямецкай акупацыі забралі яго на прымусовыя работы ў Германію.

Я нарадзіўся ў 1940 годзе і, відаць, у генах было запісана, што таксама буду вазіць пасажыраў. На аўтамашынах езджу з дваццатага года жыцця, з моманту вайсковай службы. Служыў я ў Люблiне шафёрам, а пасля працаваў у пажарнай камандзе ў Гайнаўцы. У 1966 годзе перайшоў я ў транспартную фірму ПКС у Беласток. Там пасадзілі мяне на аўтобус маркі „Сан", пасля далі мне большы і выгаднейшы для пасажыраў „Ельч". Тады шафёр пільнаваў толькі руля, а білеты пасажырам прадаваў кандуктар. Калі аўтобус цягнуў за сабою прычэп з пасажырамі, тады кандуктараў было двух. Па дарозе кандуктараў правяралі кантралёры. Пазней білеты сталі прадаваць таксама шафёры. Трэба было разлічвацца з прададзеных білетаў кожны дзень, а раз у месяц праводзіўся перападлік.

Работа шафёра не з лёгкіх і трэба было яе любіць, каб прысвяціць ёй усё сваё прафесійнае жыццё. На работу трэба было явіцца вельмі рана, бо першыя аўтобусы выязджалі ў дарогу ўжо а чацвёртай раніцы. Зімою цяжка было завесці матор, асабліва дызельны рухавік. Калісьці дарогі таксама былі кепскія. Намнога лягчэй стала, калі прыйшлі новыя тыпы аўтобусаў. Ездзіў я на аўтобусах далёкага следавання ў Люблін, Варшаву, Ольштын, Гданьск, скалясіў усю Беласточчыну. Шафёру нельга даўжэй працаваць чым 14 гадзін у суткі. Часта прыходзілася начаваць па-за домам. У Орлі шафёры начавалі ў Таранціхі, а паўстанак быў тады за адпачынковым паркам.

Прапрацаваў я ў ПКСе 36 гадоў, а трыццаць гадоў ездзіў без аварыі. У дзевяностых гадах пайшоў я на пенсію па стане здароўя. Двойчы прысвоілі мне адзнаку ўзорнага шафёра.

Многія мае калегі таксама адышлі ўжо на пенсію. Шафёры часта не вытрымоўваюць псіхічнай нагрузкі ў рабоце. Важна таксама ўладкаваная сямейная сітуацыя. У нашым асяроддзі аб вадзіцельскай прафесіі ходзіць такая вось прымаўка: „Zawód kierowcy wady ma: musi trzeźwy być co dnia".

**Запісаў Міхал Мінцэвіч**

*Рэпрадукцыя аўтара*



*Бацька героя артыкула, Станіслаў Камарчук — гайнаўскі рамізнік, на чыгуначным вакзале. Здымак зроблены ў 1939-40 гадах.*

## На адну „Пагоню" больш

З 1 чэрвеня на пятнаццаць хвілін у тыдзень пашыраецца час беларускіх перадач Беластоцкага радыё. Дадатковае чвэрць гадзіны „Пад знакам Пагоні" будзе выходзіць у эфір па суботах, у 18.05. Пасля яго — тыя ж: „Беларускі канцэрт пажаданняў" і „Духоўныя сустрэчы", да сёмай гадзіны вечара.

— Дадатковы час мы дасталі не на пашырэнне канцэрта пажаданняў, а на яшчэ адну праблемную перадачу, — кажа кіраўнік рэдакцыі нацыянальных меншасцей Беластоцкага радыё **Уладзіслаў Праховіч**. — Мае супрацоўнікі, Юрка Ляшчынскі і Яраслаў Іванюк, лёгка запоўнілі б гэты час матэрыялам у выпрацаванай дагэтуль форме, тым не менш хочам, каб суботняя перадача адрозніваласа ад астатніх. Можна, напрыклад, будзе ў яе рамках даваць рэпартажы. У мяне ёсць ідэя, каб раз у месяц стварыць радыёпастаноўку. Буду гэта прапанаваць Янку Морданю, які ў свой час гуртаваў вакол сябе даволі вялікі калектыў тэатралаў. У сучаснай беларускай літаратуры ёсць творы, якія можна пераклаасці на мову радыёспектакля і, такім чынам, папулярызаваць іх. Прычым, не так важна, каб стварыць высакаякасны прафесіянальны радыётэатр, скажам, з акцёраў з Беларусі, а каб вышукоўваць у нас як найбольш людзей, у якіх ёсць што сказаць і даваць ім магчымасць паказацца. Першы такі спектакль, мог бы выйсці ў эфір у верасні. Да таго часу нашы новыя перадачы будуць у большай ці меншай ступені нагадваць тыя, што ўжо ёсць. На канікулах бывае многа розных мерапрыемстваў і мы ў суботы будзем іх прадстаўляць шырэй. Нядзельныя перадачы набудуць больш палітычны і гаспадарчы характар, а суботу прысвяцім культурным тэмам.

**М. В.**

# Адкрыты ліст Рышарду Мязку

**У „Ніве" н-р 21 мы інфармавалі пра прэс-канферэнцыю, якую склікаў праграмны дырэктар Беластоцкага тэлебачання Войцех Варатыньскі. Канферэнцыя мела свае паслядоўнасці, аб чым сведчыць змест адкрытага ліста Алега Латышонка старшыні Управы Польскага тэлебачання Рышарду Мязку. (рэд.)**

Szanowny Pan
Ryszard Miazek
Prezes Zarządu TVP SA

Oddział Telewizji Polskiej SA w Białymstoku zwołał w dniu 12.05.1997 r. konferencję prasową dotyczącą listu otwartego Przewodniczącego Związku Białoruskiego w RP p. Eugeniusza Wappy do Szanownego Pana Prezesa oraz wywiadów prasowych działaczy organizacji białoruskich. Związek Białoruski w RP został o tej konferencji powiadomiony, w związku z czym udałem się na nią jako jego przedstawiciel.

Na miejscu okazało się, że na gości czeka studio telewizyjne z kamerami. Zaproponowano mi, bym zajął miejsce za jednym ze stołów wraz z ks. Grzegorzem Misijukiem i Przewodniczącym Białoruskiego Towarzystwa Społeczno-Kulturalnego p. Janem Syczewskim. Przy drugim stole zasiedli przedstawiciele Telewizji Białystok z zastępcą dyrektora ds. programowych p. Wojciechem Worotyńskim na czele. Dziennikarzom wyznaczono rolę publiczności. Okazało się, że mam wziąć udział nie w konferencji prasowej, lecz w otwartej dyskusji. Chociaż nie przygotowany, zgodziłem się na taką propozycję. Zastrzegłem sobie jedynie prawo autoryzacji swoich wypowiedzi, na co p. Worotyński wyraził zgodę.

W dniu 16.05.1997 r. zaproszono mnie do Telewizji Białystok i przedstawiono audycję przygotowaną na podstawie materiału z konferencji. Zapoznawszy się z treścią audycji, odmówiłem autoryzowania swoich wypowiedzi. Odmowę złożyłem na piśmie poświadczonym podpisem odpowiedzialnego pracownika Telewizji Białystok.

Odmówiłem autoryzacji, ponieważ w audycji nie znalazły się najbardziej istotne moje wypowiedzi.

Po pierwsze, nie było w niej ani słowa o tym, że Dyrektor Oddziału TVP SA w Białymstoku po uzyskaniu nominacji w wywiadach prasowych negował potrzebę nadawania audycji w języku białoruskim.

Po drugie, nie znalazło się w niej moje stanowcze stwierdzenie, że audycje w języku białoruskim w OTVP są wynikiem starań Związku Białoruskiego (o czym Pan Prezes może się przekonać po zapoznaniu się z dokumentacją w Krajowej Radzie Radiofonii i Telewizji oraz Zarządzie TVP SA, zawierającą m.in. 10 tysięcy podpisów zebranych przez Związek Białoruski).

Po trzecie, ani słowem nie wspomniano o bezpośredniej przyczynie protestu Przewodniczącego Związku Białoruskiego p. Wappy oraz krytycznych wypowiedzi innych działaczy białoruskich. A przecież przyczyną było to, że Telewizja Białystok w czasie prawosławnych Świąt Wielkiej Nocy wyemitowała program ekologiczny, uniemożliwiając w ten sposób obejrzenie programu przygotowanego przez Warszawski Ośrodek Telewizyjny specjalnie na święta prawosławne.

Ponadto podczas konferencji dyr. Worotyński wykorzystywał w dyskusji pismo Związku Białoruskiego, na które Dyrekcja Oddziału TVP SA w Białymstoku nie raczyła odpowiedzieć, mimo iż od jego złożenia upłynęło pół roku.

Pragnę również zwrócić Pańską uwagę na ton wypowiedzi dyr. Worotyńskiego. Przedstawiając postulaty Związku Białoruskiego (mniejsza o to, czy rzetelnie), stwierdził on m.in.: „Gdybyśmy chcieli spełnić te oczekiwania, to tak naprawdę byłaby to telewizja białoruska, i jeszcze przy okazji może by tam jakiś program w polskim języku może by się udało nadać".

Spór pomiędzy Dyrekcją Oddziału TVP SA w Białymstoku a Związkiem Białoruskim trwa od momentu powołania tego Oddziału. Obawiam się, że cytowana powyżej wypowiedź przenosi ten spór na płaszczyznę stosunków polsko-białoruskich i ma charakter wręcz jątrzący. W prywatnych rozmowach ze znajomymi, którzy oglądali wspomnianą audycję, spotykałem się z zarzutem, że chcę zawłaszczyć dla Białorusinów Telewizję Białystok.

Szanownemu Panu Prezesowi pozostawiam uznanie, czy Dyrekcja Oddziału TVP SA w Białymstoku właściwie rozumie rolę telewizji publicznej w regionie mieszanym narodowościowo i religijnie oraz samą istotę dziennikarstwa.

Z poważaniem
Oleg Łatyszonek

PS. W załączeniu przesyłam artykuły przedstawiające problem z punktu widzenia obecnych na konferencji dziennikarzy.

# Спантанная актыўнасць беларусаў

Беларускае асяроддзе Беласточчыны зрабілася апошнім часам вельмі актыўнае. Не ведаю ці пакарыстаўся я тут адпаведным тэрмінам — „асяроддзе", не паясняючы, што абмяжоўваецца яно да акрэслення невялікай групы дзеячаў сярод двухсоттысячнай масы, якую вонкавы свет называе беларусамі, „рускімі" ці праваслаўнымі, а апошнім часам нават украінцамі. Думаю, што ніхто таксама не пратэставаў бы, калі б нехта называў нас ятвягамі, прусамі ці хазарамі.

Але пра актыўнасць „асяроддзя" хацеў бы я напісаць некалькі слоў. Калі пагляддзеў я ў „Kalendarz imprez kulturalnych województwa białostockiego w 1997 roku", узнікла ў мяне пытанне, ці наша насельніцтва будзе мець яшчэ нейкі час, каб зарабляць сабе на хлеб і білеты, адчыняючыя дзверы на культурныя імпрэзы. Дзеячы аднае масавай арганізацыі (6 тысяч членаў!) набліжаюцца ўжо да ідэалу і арганізуюць „мерапрыемствы" кожны другі дзень. Іншыя, якіх банкаўскія рахункі ўпарта трымаюцца нулявога стану, трошку менш актыўныя, але і яны „не спяць", і безупынна змагаюцца — найчасцей за адраджэнне беларускасці. Тыя, якія стаміліся на беларускім фронце, ідуць часам змагацца пад рускім ці ўкраінскім сцягамі. Сапраўднаму салдату, дарэчы, усё адно за якую справу ісці ў бой; найважнейшае — імкнуцца да перамогі. Фэсты, фестывалі, канферэнцыі, сустрэчы, конкурсы, кангрэсы, агляды — гэта не толькі палі баёў, што арсеналы ідэалагічнай амуніцыі.

Спантанная актыўнасць нашых дзеячаў набліжаецца, здаецца, да нейкага апагея і ўцякае з-пад якога-небудзь кантролю. Не абазначае гэта, што яе паслядоўнасці ў некантраляваны спосаб пераносяцца на нашае насельніцтва і парушаюць няспынны працэс яго паланізацыі. Наадварот, насельніцтва пра тое, што робяць дзеячы, наогул нічога не ведае і ведаць не хоча. Пра некантраляваную арганізацыйную дзейнасць пішу, маючы перш за ўсё на ўвазе той факт, што дзеячы тых самых арганізацый у тым самым часе арганізуюць дзве зусім розныя імпрэзы. Напрыклад, 24 мая старшыня Беларускага дэмакратычнага аб'яднання Пятро Крук запрашаў на IV Кангрэс партыі. Пачатак партыйнага з'езда запрапанаваў ён у 11 гадзін. Адначасова ганаровы старшыня БДА Сакрат Яновіч даслаў, ад імя кіраўніцтва Літаратурнага аб'яднання „Белавежа" запрашэнне на сустрэчу з нагоды выдання яго ных „Дзённікаў". Пачатак сустрэчы з аўтарам быў запланаваны ў 12 гадзін. Кангрэс БДА і семінар „Белавежы" адбываліся ў будынку Гуманітарнага факультэта Філіяла Варшаўскага універсітэта і нават на тым самым паверсе, толькі што ў розных залах. Гэта стварала даволі драматычную сітуацыю для такіх як я, якія хацелі прысутнічаць на абедзвюх імпрэзах. З аднаго боку хацелася б пагаварыць з аўтарам асаблівай кніжкі, якой з'яўляюцца дзённікі, тым больш, што я меў гонар быць рэдактарам гэтага выдання. З другога боку ў зале, дзе адбываўся кагрэс БДА, праходзілі гістарычныя падзеі. Ставіліся прапановы, каб нашу дэмакратычную і ліберальную партыю далучыць да нейкага лукашэнкаўскага руху. Узнікала амаль гамлетаўскае пытанне: дзе быць, а дзе не быць. Кожны выбар быў дрэнны. Пакінуўшы кангрэс, зайшоў я на семінар, выпіў чарку Сакратавай „жытнёўкі" і ў апошняй хвіліне паспеў яшчэ на момант выбару новых улад БДА ды авацыі ў гонар Пятра Крука (старшыня Галоўнай рады) і Пятра Юшчука (каардынатар Краёвай управы) пасля абвяшчэння вынікаў тайнага галасавання.

Падумаць толькі, што раніцай таго ж дня — 24 мая — я задумваўся, ці не паехаць у Варшаву на канферэнцыю, прысвечаную аналізу палітычнай сітуацыі ў Беларусі. Усё ж такі чамусьці мне здалося, што наша Беласточчына больш вясёлая краіна чым Лукашэнленд.

**Яўген Мірановіч**

# Забыты дзеяч нацыянальнага руху

Даволі даўно я пачаў збіраць звесткі пра гэтага забытага дзеяча беларускага руху часоў II сусветнай вайны. Працы было б звярнуцца ў беларускія архівы, дзе на „буржуазнага нацыяналіста" Контаўта матэрыялу хапае, але і сёння зрабіць гэта не так лёгка. Аднак і без архіўных крыніц можна паспрабаваць скласці жыццяпіс гэтага беларускага патрыёта.

Мечыслаў Контаўт нарадзіўся на Магілёўшчыне на пачатку дваццатага стагоддзя. Ягоны бацька паходзіў з мясцовае шляхты. Ратуючыся ад бальшавікоў, Контаўты выехалі дзесьці ў 1920 годзе ў Польшчу. Згубіўшы ўсю сваю маёмасць, зямлю, ім прыйшлося жыць у складаных варунках. Бацькі Мечыслава, хоць і не бралі ўдзелу ў нацыянальным руху, былі свядомымі беларусамі і выхавалі сына ў духу беларускага патрыятызму.

У 1930-я гады М. Контаўт вучыўся у Варшаўскай палітэхніцы, быў вучнем прафесара Вацлава Іваноўскага. Ён і Міхась Вітушка былі актыўнымі студэнтамі, узначальвалі нейкі час студэнцкія зямляцтвы. Калі ўтварылася Асветнае таварыства беларусаў у Варшаве, Контаўт быў яго актыўным працаўніком. Тут пачаў выяўляцца яго шматгранны талент. Мечыслаў быў выдатным арганізатарам, мастаком, акцёрам тэатра і кіно. Ягоныя сябры гаварылі, што ён „усё ўмее рабіць".

Калі ў акупаванай немцамі Варшаве ўтварыўся Беларускі камітэт, Мечыслаў Контаўт стварыў пры ім аматарскі беларускі тэатр.

У 1941 г. пасля ўсталявання нямецкае адміністрацыі ў Беларусі М. Контаўт быў прызначаны старшынёй Менскага павета. Аднак ніякіх ілюзій у дачыненні да нямецкае палітыкі на Беларусі ён ужо не меў. Разам з сябрамі з Варшавы ён арганізоўваў структуры беларускае канспірацыі, падтрымоўваў нацыянальны партызанскі рух.

5 верасня 1942 года Народны камісарыят абароны СССР выдаў загад н-р 00189, які ставіў наступную задачу дыверсійным атрадам дзяржбяспекі: „Беспощадно истреблять и захватывать в плен фашистских политических деятелей, генералов, крупных чиновников и изменников Родины, находящихся на службе у врага". Дзясяткі чэкісцкіх атрадаў і груп, а таксама савецкія партызанскія атрады, распачалі змаганне супраць працаўнікоў беларускай адміністрацыі, паліцыі, самаахоўы.

Папулярны расейскі месячнік „Совершенно секретно" у нумары за люты 1996 г. закрануў якраз гэтую тэму. Вясною 1943 года на тэрыторыі Беларусі чэкісты арганізавалі „паляванне" на расейскага генерала А. Уласава. Як сведчаць пададзеныя ў газеце дакументы дзяржбяспекі, чэкісты абапіраліся на шматлікую сваю агентуру, якая „супрацоўнічала" з немцамі. Нечаканасцю для мяне было тое, што агентам НКГБ быў беларускі літаратар Антон Адамовіч (мянушка „Иванов"), на якога ўскладалі вялікія надзеі чэкісты. Праўдападобна, шантаж падпалкоўніка дзяржбяспекі Юрына прымусіў Адамовіча пакінуць Менск і ўцякаць у Берлін. Іншыя агенты НКГБ, як правіла, дапамагалі сваім чэкісцкім таварышам ліквідоўваць беларускі нацыянальны актыў. Трагічна загінуў у лістападзе 1943 года і Мечыслаў Контаўт.

**Сяргей Ёрш**

# У становішчы апошніх з магікан?

Калі прыглядзецца бліжэй сучаснай літаратурнай творчасці ў беларускай мове на Беласточчыне, выяўляецца факт настолькі ж дзіўны, наколькі трывожлівы. Па сённяшні дзень самымі віднымі і дзейнымі постацямі ў беларускамоўнай літаратуры з'яўляюцца тыя, што былі па сутнасці ейнымі пачынальнікамі 40 гадоў таму: Віктар Швед, Сакрат Яновіч, Ян Чыквін, Георгій Валкавыцкі. І нават факт, што да гэтай актыўнай групы мы можам залічыць Надзею Артымовіч і Міру Лукшу, — пісьменніцы пазнейшых пакаленняў — не мяняе невясёлай высновы: беларускае прыгожае пісьменства ў нас вельмі пастарэла. Бясспрэчна, нельга наўпрост звязваць маладосці ці старасці нейкай літаратуры з узростам творцаў, але нельга таксама скідаць з уліку, што сёння паміж актыўнымі творцамі і пачаткоўцамі беларускай літаратуры на Беласточчыне існуе прорва не ў адно, а ў цэлыя два пакаленні!

Гэта так, як быццам тым пакаленням беластоцкіх беларусаў, якія прыходзілі да інтэлектуальнай сталасці ў 70-тыя і 80-тыя гады гэтага веку, не знайшлося нічога істотнага сказаць пра свой лёс у беларускай мове сваім сучаснікам і наступнікам. Пра такія пакаленні часам кажуць метафарычна, што яны *нямыя* або *бязмоўныя*. Вядома, гэта ўсяго метафара, бо ж чалавек выказвае свой лёс не толькі ў словах, але яна трапна характарызуе агульны стан літаратурнага працэсу нашай культурна-моўнай меншыні ў вышэйспомненых дэкадах: гэта не быў час багаты на новыя літаратурныя таленты. Аднак жа праўда і тое, што гэта таксама не быў час, у якім каму-небудзь асабліва залежыла, каб такія таленты вышукоўваць і спрыяць іхняму развіццю.

Агульнапольскі конкурс беларускай паэзіі і прозы, які сёлета меў месца другі раз, служыць якраз вышукоўванню такіх талентаў і — праз прамоцыю найлепшых твораў узнагародамі ды публікацыямі ў „Ніве" ці ў адмысловым зборнічку — заахвочванню да далейшай працы над літаратурным словам. На *далейшую працу* я хачу менавіта звярнуць увагу ўдзельнікаў конкурсу, сёлетняга і, дай Божа, наступных. Ніхто не стаў пісьменнікам толькі таму, што „лавіў" узнагароды на літаратурных конкурсах. Безумоўна, дастаць узнагароду, убачыць сваё прозвішча надрукаванае ў газеце ці зборнічку — рэчы вельмі прыемныя самі па сабе. Але сапраўдная цікавасць публікі да аўтара ўзнікае тады, па-першае, калі ягоная творчая матывацыя не вычэрпваецца адно жаданнем выйграць конкурс, а па-другое, калі ён мае сказаць чытачам нешта *сваё*, з свайго ўнутранага досведу, а не толькі запісаць па-свойму нешта дзесьці прачытанае. Калі такога не здараецца ў працэсе *працы над словам*, аўтар застаецца вечным дэбютантам, вечным пачаткоўцам. Пісьменнік з яго не атрымліваецца.

Плён сёлетняга конкурсу паэзіі і прозы, у якім прынялі ўдзел 34 спаборнікі, дазваляе цешыць сябе надзеяй, што згаданыя на самім пачатку нашы літаратары не стануць *апошнімі з магікан* беларускага слова ў Польшчы. Я думаю, што і чытачы, якія захочуць пазнаёміцца з публікацыямі найлепшых конкурсных твораў, падзеляць са мною гэтую думку. Прарочыць камусьці літаратурную кар'еру я не хачу, бо конкурс — усяго толькі адзін крок, але ён паказвае, што некаторым удзельнікам варта зрабіць другі і наступныя. Варта пісаць далей, даваць свае творы на суд чытачам, нават калі імі з'яўляюцца ўсяго сябры і знаёмыя; варта таксама (не, не проста варта — абавязкова трэба!) чытаць як мага больш па-беларуску і падглядваць, *чым ёсць літаратура* для іншых беларускіх аўтараў. Рэцэпта на тое, як „зрабіць літаратара", не існуе, але можна стварыць пэўныя спрыяльныя абставіны, у якіх літаратурны талент развіваецца і выпрацоўваецца хутчэй і паўней. Крытычны суд над сваімі літаратурнымі спробамі збоку і чытанне іншых аўтараў — несумненна належаць да такіх спрыяльных абставін і перадумоваў на шляху да літаратурных поспехаў.

Я думаю, лішне было б тут падкрэсліваць грамадскае значэнне такой ініцыятывы Рэдакцыі „Нівы" і Беларускага саюза ў Польшчы, як літаратурны конкурс на беларускай мове. Сама колькасць удзельнікаў гаворыць найбольш красамоўна за ўсё іншае ў карысць гэтай ідэі. Выпадае толькі пажадаць арганізатарам конкурсу, каб хапіла ім настойлівасці ды спонсараў і ў наступныя гады.

**Ян Максімюк**

## Вынікі II Агульнапольскага конкурсу беларускай прозы і паэзіі

Конкурсная камісія ў складзе: Надзея Артымовіч, Ян Максімюк (старшыня) і Ян Леанчук на пасяджэнні 21 мая 1997 г. вырашыла прысвоіць:

**У катэгорыі дзіцячай творчасці:**

* I месца — **Юстыне Каралько** (Пачатковая школа н-р 3 у Бельску-Падляшскім)

* вылучэнні: **Мілене Ролі**, **Іаланце Антанюк** і **Міхасю Базылюку** (усе таксама з ПШ н-р 3 у Бельску-Падляшскім).

**У катэгорыі маладзёжнай творчасці:**

* I месца — **Іаанне Масайла** (Агульнаадукацыйны ліцэй з беларускай мовай навучання ў Гайнаўцы)

* II месца — **Тамашу Саевічу** (Агульнаадукацыйны ліцэй з беларускай мовай навучання ў Гайнаўцы)

* II месца — **Моніцы Юрчук** (Агульнаадукацыйны ліцэй з беларускай мовай навучання ў Бельску-Падляшскім)

* вылучэнні — **Юрку Буйнюку** (Агульнаадукацыйны ліцэй з беларускай мовай навучання ў Бельску-Падляшскім) і **Паўлу Цімафеюку** з Чаромхі.

**У катэгорыі творчасці дарослых:**

* II месца — **Яўгену Бялькевічу** з Чыжоў

* II месца — **Алегу Каламійцу** з Познані

* III месца — **Уладзіміру Саўчуку** з Беластока

* вылучэнні — **Аліне Леанеўскай** з Міклашэва і **Уладзіміру Сабешуку** з Беластока

**У катэгорыі народнай творчасці:**

* I месца — **Мікалаю Лук'янюку** з Бялкоў

* II месца — **Мікалаю Панфілюку** з Дубічаў-Царкоўных

* вылучэнне — **Марыі Манаховіч** з Ягуштова каля Бельска-Падляшскага.

## Пасол Ірландыі ў Беластоку

21 мая г.г. наведаў Беласток пасол Рэспублікі Ірландыі ў Польшчы **Патрык МакКэйб** (Patrick McCabe). Візіт пасла супаў з заснаваннем у Беластоку аддзела Польска-ірландскага таварыства (сядзібу Таварыства мае ў Познані). Таварыства ставіць сабе мэту прапагандавання ірландскай культуры ў Польшчы. Прапагандаванне гэтае праякладаецца ў даволі нескладаныя сродкі яго дасягнення — слуханне ірландскай музыкі і выпіванне піва (таксама ірландскага).

П. МакКэйб нарадзіўся на поўначы Ірландыі, мае 52 гады. Ягоная жонка — палячка, займаецца перакладамі. Жыццё сваё П. МакКэйб поўнасцю звязаў з дыпламатычнай кар'ерай — выконваў дыпламатычную місію, між іншым, у Маскве. Ірландскую (кельцкую) мову пасол ведае ўсяго на школьным узроўні — у ірландскіх школах дзеці завучаюць вершы і песні на гэтай мове. Навучанне гэтае, як адзначыў пасол, праводзіцца аднак даволі неахайна. Значна больш строга і прынцыпова падыходзяць да яго жыхары Ольстэра, якія ў палітычнай сімпатыі схіляюцца да Ірландыі, а не да брытанскай каралевы. Падабенства паміж ірландскай (кельцкай) і англійскай мовамі такое ж, як паміж польскай і латынню.

Віншуючы заснавальнікаў беластоцкага аддзела Польска-ірландскага таварыства, пасол Ірландыі, з куфлем піва Гінес, адспяваў па-кельцку адзін з патрыятычна-змагарскіх эпасаў, якіх багата натварылася на працягу гісторыі гэтай краіны і яе змагання з англійскімі прыгнятальнікамі. **(са)**

## Незалежнае выданне

На выдавецкім рынку Беларусі, на якім царствуе поўнасцю падпарадкаваная дзяржаўным структурам перыёдыка, незалежныя часопісы — рэдкая з'ява. Нядаўна да гэтай жменькі выданняў далучылася „Газета Слонімская", якая акрэслівае сябе як незалежны грамадска-палітычны штотыднёвік. У першым нумары (ад 24 красавіка г.г.) рэдакцыя спасылаецца на традыцыі даваеннай аднайменнай газеты, якая выдавалася са снежня 1938 г. на польскай мове, і заяўляе, што будзе займацца прапагандаваннем мясцовага патрыятызму, акцэнтуючы гістарычную веліч Слоніма. І сапраўды, у першых двух нумарах, якія выйшлі да гэтай пары (штотыдзень газета стане паяўляцца ў ліпені), змешчаны артыкулы пра герб Слоніма, гарадскія падзямеллі XVII стагоддзя, ікону Жыровіцкай Божай Маці, слонімскага магната Аляксандра Солтана. Газета займаецца таксама і навейшай гісторыяй. У другім нумары Сяргей Ёрш (які не раз друкаваўся і на нашых старонках) высвятляе справу забойства аднаго з мясцовых кіраўнікоў антыфашысцкага супраціўлення Феакціста Міско радысткай сакратара падпольнага камітэта кампартыі, які прыбыў сюды з-за лініі фронту. Аўтар схіляецца да меркавання, што смяротны выстрал не быў выпадковым, паколькі пасля вайны „заходні" партызанскі камандзір мог стварыць канкурэнцыю „васточнаму" партыйнаму сакратару. У рубрыцы „Асоба" прэзентуюцца вядомыя слонімцы: паэт Анатоль Іверс, экс-міністр абароны Леанід Мальцаў, гісторык Павел Лойка, акцёр Уладзімір Антонік.

Газета змяшчае таксама аператыўную інфармацыю пра жыццё горада і не абыходзіць маўчаннем скандальных тэм. Напрыклад, у першым нумары можна прачытаць пра слонімскую фінансавую піраміду (дзве жанчыны — выхавацелька садзіка і работніца культуры — пазычылі ў даверлівых людзей пад 10 працэнтаў 1 мільён долараў і зніклі), а ў другім — пра фіктыўны экспарт калгасам „Маладая гвардыя" з Шылавіч спірту ў Амерыку, дзякуючы чаму амаль 100 тысяч долараў акцызных падаткаў трапіла ў прыватныя кішэні.

Беларускія ўлады недалюбліваюць незалежныя выданні і ўсялякімі спосабамі намагаюцца перашкаджаць у іх рэгулярным выхадзе. Найбольш спрактыкаваным прыёмам з'яўляецца адмова друку дзяржаўнымі мясцовымі друкарнямі (прыватных друкарань у Беларусі няма). Другі нумар „Газеты Слонімскай" прыйшлося ўжо друкаваць у Баранавічах, бо ў Слонімскай узбуйненай друкарні не знайшлося „тэхнічных магутнасцяў". Але рэдакцыйны калектыў не здаецца і абяцае рабіць усё магчымае, каб газета была цікавай для чытача і выходзіла рэгулярна штотыдзень.

**Віталь Луба**

## Выданні „Братчыка"

Гайнаўскае выдавецтва „Братчык", якім кіруе **Марк Якімюк**, займаецца папулярызацыяй царкоўнай літаратуры. Выданні „Братчыка" адзначаюцца высокім эдытарскім узроўнем. Беларускі чытач мог некалькі месяцаў таму пазнаёміцца з кнігай *Манахі Афонскай гары аб праваслаўнай духовасці*. Поспех гэтай кнігі ды яе перакладу на беларускую мову падштурхнуў М. Якімюка, каб пашыраць гэтую перакладчыцкую практыку і на іншыя выданні, якія свой дэбют мелі ў польскай мове.

Апошнім часам „Братчык" выпусціў кнігу *Ziemia Święta, cud ognia i chwała obłoków*. Аўтарка кнігі Марыя Юрчук — праваслаўная манашка, якая ад шасці гадоў пражывае ў жаночым манастыры ў ваколіцы Іерусаліма. Кніга гэтая прысвечана айчыне Ісуса Хрыста, а асаблівы націск ставіцца ў кнізе на апісанне святынь Іерусаліма ды манастыроў у ваколіцы горада. Выданне багата ілюстравана каляровымі фатаграфіямі Іерусаліма, яго святынь ды ўсіх тых месцаў, якія ў гісторыі хрысціянства адыгралі знамянальную ролю.

Пераклад кнігі *Ziemia Święta...* на беларускую мову, які плануецца М. Якімюком, а таксама і датрыманне эдытарскага ўзроўню, які характэрны для „Братчыка", патрабуюць значных фінансавых сродкаў. Усе асобы і ўстановы, зацікаўленыя ў папулярызацыі праваслаўнай царкоўнай літаратуры ахвяраванні на гэту мэту могуць дасылаць у рэдакцыю „Братчыка" па адрасе **Wydawnictwo BRATCZYK, ul. Mazurska 14, 17-200 Hajnówka, tel. (0-835) 25-65** або на банкаўскі рахунак **PBK SA O/Hajnówka 11101170-4659-2700-1-12**.

**(ам)**

**Зорка**
СТАРОНКА ДЛЯ ДЗЯЦЕЙ

# Х Сустрэчы „Зоркі”

## 18–25.05.1997 г. Гданьск


Удзельнікі Х Сустрэч „Зоркі” наведалі кашубскую школу ў Гладніцы. На школьным будынку кашубскі герб — чорны грыф на жоўтым полі.

Юбілейныя Х Сустрэчы „Зоркі” вылучаліся шматлікімі атракцыёнамі. Праходзілі яны ў рассвяткаваным з нагоды тысячагоддзя Гданьску. У мерапрыемстве прыняло ўдзел 29 асоб. Разам з карэспандэнтамі „Зоркі” былі і вучні з беларускай школы ў Вільні. У Гданьску мы апынуліся па запрашэнні Беларускага таварыства „Хатка”, якім кіруе доктар Лена Глагоўская. Нашы гаспадары вельмі старанна падрыхтавалі нам незабыўны, поўны незвычайных уражанняў тыдзень. Удзельнікі Х Сустрэч наведалі кашубскую школу ў Гладніцы, а таксама кашубскі этнаграфічны музей у Вдзыдзах. Мы мелі нагоду сустрэцца з маладымі ўкраінцамі, якія вывучаюць сваю родную мову, ну і, зразумела, з беларусамі Гданьска. Супольная вечарына напэўна астанецца назаўсёды ў памяці і нашых сэрцах.

Гданьск, як адзначаюць экскурсаводы, гэта горад касцёлаў. Добра, што ў праграму была ўключана тэма пра шматрэлігійнасць гэтага горада. Удзельнікі „Сустрэч” мелі непаўторную нагоду наведаць і пазнаёміцца з асаблівасцямі лютэранскага, рымска-каталіцкага, армянскага, менаніцкага, пратэстанцкага (спасапраабражэнскага), польска-каталіцкага, мусульманскага храмаў. Вандроўку завяршылі мы ў гданьскай праваслаўнай царкве. Як заўважылі многія ўдзельнікі нашага мерапрыемства, знаёмства з іншымі рэлігіямі найбольш прыбліжае сваё веравызнанне.

Не менш адукацыйнымі і цікавымі былі пабыўкі ў марскім, нацыянальным ці археалагічным музеях. Незабыўныя ўражанні асталіся пасля наведання галерэй сучаснага мастацтва ў Сопаце і Аліве. Нават мелі мы нагоду паслухаць славутыя арганы ў Аліўскай кафедры. Трэба згадаць і пра сустрэчы з цікавымі людзьмі. Мы мелі гонар паслухаць расказы прафесара Анджэя Хадубскага пра гісторыю Гданьска. Не менш цікавай была сустрэча з журналісткай Гданьскага радыё і перакладчыцай з беларускай мовы, спадарыняй Аннай Сабэцкай. Дарэчы, гэтая журналістка зрабіла пра нашы „Сустрэчы” радыёперадачу.

Добра, што ўдзельнікі сустрэч вельмі дэталёва напісалі пра свае ўражанні і незабыўныя хвіліны. Згадайма, у Гданьск прыехалі лаўрэаты конкурсаў на рэпартаж і найбольш заангажаваныя карэспандэнты. Зараз, пакуль пачнем друкаваць самыя цікавыя адрэзкі дзённікаў, рэпартажы, малюнкі, напамінаем нашым чытачам, што і яны павінны пісаць пра свае летнія падарожжы, незабыўныя сустрэчы ці здарэнні. Аўтараў самых цікавых допісаў чакаюць чарговыя мерапрыемствы.

**Спонсары**

„Сустрэчы „Зоркі” здзейсніліся дзякуючы падтрымцы:

**— Міністэрства нацыянальнай адукацыі,**

**— Прафсаюзаў „Салідарнасць”,**

**— Суполкі „Міртранс” з Гдыні,**

**— Фонду Баторыя,**

**— Польскага фонду дзяцей і моладзі.**

Удзельнікі Х Сустрэч „Зоркі” накіроўваюць асаблівую падзяку Беларускаму таварыству „Хатка” і галоўнаму арганізатару д-р **Лене Глагоўскай**, а таксама айцу **Раману Дэйну**, гаспадару польска-нямецкага дома паяднання ім. св. Максіміляна ў Гданьску. **Г. К.**


Памятны здымак на фоне тысячагадовага Гданьска. Фота Ганны КАНДРАЦЮК

# Гданьскія замалёўкі

***(фрагменты дзённікаў удзельнікаў Х Сустрэч „Зоркі”)***

Як я чакала гэтага дня, калі паеду ў Гданьск! І вось, 18 мая мы прыехалі з Вільні ў сам Гданьск. Нас сустрэлі спадарыня Лена і яе дачка Цэліна. Найперш наведалі мы стары горад. Там шмат касцёлаў, месцаў, якія былі разбураны пасля вайны. Многа часу мы правялі каля помніка Нептуну, богу мора. Ён стаіць пасярэдзіне вуліцы, якая называецца Доўгі Тарг.


*Жораў.*
Мал. Пятра Дзямянюка з ПШ у Чыжах

Каля яго знаходзіцца Ратуша. На гэтай ратушы вісяць дзве пары гадзіннікаў. Адна з іх сонечная, а другая — механічная. У самой Ратушы шмат старых рэчаў. Побач помніка Нептуну стаіць Двор Артуса. Зараз гэты будынак рэстаўрыруецца. З гэтым месцам звязана цікавая легенда. Аднойчы, калі ў гэтым памяшканні былі танцы, дык туды прыехаў чорт. Яму спадабалася адна дзяўчына і ёй чорт таксама спадабаўся. Ён быў высокі, чарнавалосы, з чорнымі вусамі. У дзяўчыны быў хлопец. І калі ён заўважыў залёты саперніка, так раззлаваўся, што выбіў чорту самы прыгожы зуб. І вось цяпер гэты зуб стаіць пры ўваходзе ў Двор Артуса.

Яшчэ былі мы ў Мар'яцкім касцёле. Там вельмі прыгожыя абразы. Мы падымаліся на вежу гэтага касцёла. Усяго там 403 сходкі. З вежы касцёла відаць панараму Гданьска і наваколля.

***(працяг будзе)***

**Інга Алтойць, Вільня**


Нашы сябры ля помніка Нептуну.

# Лаўрэаты прадметнага конкурсу

У Бельску-Падляшскім адбыліся ваяводскія элімінацыі III Прадметнага конкурсу па беларускай мове для вучняў падставовых школ. У конкурсе прыняло ўдзел 10 вучняў з пяці школ:

— школа ў Бельску — 4 асобы (рыхтавалі настаўніцы Анна Бжазоўская і Міраслава Маркевіч),

— школа н-р 3 у Гайнаўцы — 2 асобы (настаўніца Мар'я Магрук),

— школа ў Старым Корніне — 1 асоба (настаўнік Васіль Сегень),

— школа ў Дубічах-Царкоўных — 1 асоба (настаўніца Галіна Трашчотка),

— школа ў Нарве — 2 асобы (настаўніца Ніна Абрамюк).

Ваяводская камісія ў складзе: Аліна Банькоўская (старшыня камісіі), Ніна Куптэль і Анна Мінько ацэньвала пісьмовыя працы і вусныя выказванні ўдзельнікаў. Пісьмовая праца складалася з трох частак: тэст ведаў па літаратуры і граматыцы, праца з тэкстам (пішуць працу на дадзенае пытанне) і складанне выказвання на аснове прачытанага тэксту (выказаць думкі і рэфлексіі на акрэсленае пытанне) — тэкст зачытвае адзін з членаў камісіі (вучні не маюць тэкстаў).

Лаўрэатамі сёлетняга фіналу конкурсу сталі дзяўчаты:

— Аня Грынявіцкая — I месца (Нарва),

— Валянціна Іаланта Чачуга — II месца (Бельск),

— Анэта Цібік — III месца (Бельск),

— Анэта Андрасюк — IV месца (Бельск),

— Моніка Калішэвіч — V месца (Бельск),

— Івона Назарук — VI месца (Гайнаўка),

— Агнешка Зубрыцкая — VII месца (Нарва).

У падрыхтоўцы гэтага конкурсу найбольш папрацавала Аліна Банькоўская. За гэта ёй вялікае дзякуй.

Пераможцаў віншую і зычу далейшых поспехаў у навуцы ў сярэдніх школах.

**Ніна Абрамюк**

*Фота Міры Лукшы*



*Лаўрэаткі з Нарвы (злева): Агнешка Зубрыцкая, Аня Грынявіцкая і Ілона Асташэўская.*

# Маці

Вочы ў яе піўныя,
Валасы кучаравыя.
Росту яна невялікага.
Яна мілая, сардэчная,
Яна кахае мяне.
Яна — мама.

**Катажына Бура**
**кл. VI „б" ПШ у Нарве**

# Крыжаванкі № 23

Запоўніце клеткі словамі паводле значэнняў. Калі вы правільна адгадаеце ўсе словы, атрымаецца лозунг.

*(Даслала Каля Леанюк)*

птушка — аматар чарэшняў
пёрыстыя на небе
„Залатая..." казка з 35 н-ра „Зоркі" за 1996 год
дрэва Ягайлы
маленькі, летам шэранькі звярок
дзьме, аж шумяць дрэвы
польскі астраном
складаецца з літар
напрыклад, цюльпан
птушка — сімвал мудрасці

*(Даслала Бэата Іванюк з Катлоўкі)*

для малявання
плыве праз Варшаву
смачная садавіна
кветка, якая цвіце ў маі
агародніна, якую любіць заяц
пасля красавіка

***Адказ на крыжаванкі н-р 19***

**Крыжаванка Касі Леанюк:** Чароўнасць вясны

**Польска-беларуская крыжаванка:** птах, дар, нуда, раб, рака, мова, пажар, панарама, труба, кава, храпа, ар.

Узнагароды — **аўтаручкі з нагоды тысячагоддзя горада Гданьска** — выйгралі: **Івона Міранчук** з Нарвы, **Малгажата Мартонік** з Гарадка, **Мар'юш Ярашэвіч** з Кнарыд, **Андрэй Крук** з Катоўкі, **Сільвія Паплаўская** з Гарадка, **Адам Грынявіцкі** з Нарвы і **Анна Саеўская** з Кленік.

# У Гарадку многа дзеецца

Пішуць і вітаюць Цябе, як і ўсіх чытачоў гэтай старонкі, вучні VI-х класаў гарадоцкай школы. Вядома, тыя, што вывучаюць беларускую мову.

Выбачай, што мы крыху прызабылі пра Цябе, а і Ты чамусьці не заглядаеш да нас... А ў нас так многа адбываецца, што мы не паспелі агледзецца, а ўжо школьны год набліжаецца да канца. Каб не займаць многа цэннага месца, мы пастараемся кароценька напісаць пра два магутныя мерапрыемствы, якія адбыліся ў нас (і пры нашым выдатным удзельніцтве) і пракаціліся шырокім рэхам, калі не па цэлай краіне, дык напэўна па нашай малой Айчыне.

Першае — гэта марш маўчання арганізаваны нашай школай, які адбыўся 17 красавіка 1997 г. Шэсце прайшло галоўнымі вуліцамі Гарадка і закончылася адчытаннем і ўручэннем адозвы уладам. У ёй моладзь нашай мясціны выказала супраціў злачынцам і разбойнікам, якія б'юць людзей і робяць многа шкоды, а нават забіваюць. Сумнае, але праўдзівае! У гэтым шэсці ўдзельнічала звыш 700 чалавек (перш за ўсё школьнікі).

Другім, намнога весялейшым мерапрыемствам, былі пастаноўкі дзвюх беларускіх п'ес. Адбылося гэта 20 красавіка 1997 г. у Гарадоцкім доме культуры ў Вербную нядзельку. Сабралася даволі многа людзей. А прыцягнула іх беларускае жывое слова і маладыя акцёры. Трэцякласнікі ставілі п'есу „Не я б'ю, вярба б'е...", а мы падрыхтавалі сучасны камедыйны спектакль „Першыя крокі самастойнасці". Было многа артыстычных уражанняў, смеху, забавы і нават салодкія рагалікі (для ўсіх), а некаторыя з малодшай публікі




апрача салодкага, атрымалі ад Грышкі (іграў гаспадара ў першым спектаклі) драўляныя свісцёлкі.

Мы так захапіліся забавай у тэатр, што неўзабаве зноў пакажам сябе шырэйшай публіцы. Наш спектакль будзе ўключаны ў вялікую агульнашкольную імпрэзу з нагоды Дня маці і адбудзецца 26 мая ў ГОКу. Будуць таксама і іншыя беларускія акцэнты! Калі зможаш, Зорка, прыехаць — дык сардэчна запрашаем!

**Вучні VI класа ПШ у Гарадку з настаўніцай**

# Дні культуры Беларусі ў Польшчы

У днях ад 18 мая да 2 чэрвеня ў Варшаве і Любліне праходзілі Дні культуры Беларусі ў Польшчы. У гэтых двух гарадах даў канцэрты лаўрэат апошняга Шапэнаўскага конкурсу Андрэй Паначэўны, а пасля там праходзілі Дні беларускага кіно. У самой толькі Варшаве была наладжана выстаўка мастацтва Вітальда Бялыніцкага-Бірулі з фондаў Музея нацыянальнага мастацтва Рэспублікі Беларусь, а таксама далі выступленні будучыя зоркі беларускай музыкі. Нацыянальны акадэмічны тэатр балета Рэспублікі Беларусь паказаў у варшаўскім Нацыянальным тэатры балет „Рагнеда" ў пастаноўцы Валянціна Елізар'ева. На Каралеўскім замку даў канцэрт Дзяржаўны камерны аркестр Рэспублікі Беларусь пад кіраўніцтвам Мішы Каца. А ў Музычным тэатры „Roma" выступіў Беларускі дзяржаўны харэаграфічны ансамбль „Харошкі". Мне пашанцавала быць толькі на апошнім.

Ансамбль „Харошкі" паўстаў у 1974 годзе. Арганізавала яго і па сённяшні дзень кіруе ім Валянціна Гаявая. Ужо ў 1976 г. калектыў гастраліраваў за мяжою — у Даніі. З тае пары аб'ездзіў ён амаль увесь свет, аднак найбольш канцэртаў дае на радзіме. Ансамбль складаюць танцавальная і інструментальныя групы. У Варшаве паказалі яны спектакль з эпохі Адраджэння на Беларусі, крыніцай музыкі для якога былі рукапісы з XVI і XVII стагоддзяў. Сама музыка выконвалася на інструментах тае эпохі: колавай ліры, дудзе, дудцы, цымбалах, басэтлі.

Першая частка спектакля, паважная, дворская, была быццам уступам да другой, вясёлай і іскрыстай. Выказваныя танцам бытавыя сцэнкі тае эпохі набіралі шторазь большай энергіі, якая перадавалася і публіцы. З ходам спектакля апладысменты пастаянна набывалі моцы, а ў канцы запалоненая танцамі і музыкай публіка проста не хацела адпусціць артыстаў са сцэны.

А публіка была знатная. Прысутнічалі м.інш. віцэ-міністр культуры РБ Уладзімір Рылатка, пасол РБ у Польшчы Віктар Бурскі ці беластоцкі віцэваявода Гжэгаж Рыкоўскі. Чуваць было не толькі роднасныя славянскія мовы, але і даволі чужыя. З больш знатных вядомых мне „польскіх" беларусаў былі там Ян Сычэўскі, Валянціна Ласкевіч, Ніна Баршчэўская, Кастусь Майсеня, Пятро Крук, Пятро Юшчук, Юры Туронак, Ян Жамойцін, Ян Забродзкі.

Ян Забродзкі, як мне здалося, лічыцца ў Варшаве беларускім чалавекам-інстытутам. Ладзіў ён у фае тэатра „Roma" выстаўку беларускіх кніжак. Нейкія пяць хвілін перад пачаткам спектакля прыбег да яго нейкі ўсхваляваны чалавек з прэтэнзіяй, што нехта сядзіць ва ўрадавай ложы і міністрам няма месца! Быццам бы ён каго туды назначыў...

Адзін толькі момант не спадабаўся мне, ды і не толькі мне. Пад занавес, у буру апладысментаў, выйшла кіраўнік ансамбля Валянціна Гаявая і ўсхваляванa дзякавала „Я очень, очень..." і г.д. Увесь спектакль быў такі беларускі, такі свой, а тут — на табе! Пасля ў фае пасол Бурскі тлумачыў, што яна вельмі добра гаворыць па-беларуску, а тое, што здарылася, гэта з-за вялікага хвалявання спадарыні Гаявой; не выпадае не верыць спрактыкаванаму дыпламату. Дарэчы, на пытанне Пятра Юшчука, калі ансамбль збіраецца наведаць Беласток, Валянціна Гаявая адказала: „у кастрычніку".

Я, у сваю чаргу, спытаў яе, дзе ансамбль будзе даваць найбліжэйшыя спектаклі. Валянціна Гаявая адказала, што выбіраюцца ў Італію, Швейцарыю і Іспанію. А галоўнай задачай, дадала, гэта выступленні перад беларускай публікай. І я з апошнім поўнасцю згодны, бо ансамбль, калі добра ўслухацца і прыглядзецца, раскрывае этнагенез беларусаў, што немалаважнае ў наш час, калі іх нацыянальнае пачуццё так прыгнечана.

Нягледзячы на спомнены моўны дысананс, быў гэта цудоўны, эмацыянальна насычаны спектакль, пасля якога здаецца быць немагчымым, каб яго гледачы не сталі дабрэйшымі да ўсяго навакольнага. Асабліва ён быў каштоўны цяпер, калі жыццё большасці з нас перасычана стрэсамі, змаганнем, варожасцю, пагоняй за матэрыяльным дастаткам. Акунуўшыся ў свет музыкі і танцаў, забываеш пра ўсе турботы, быццам жывеш без іх...

**Аляксандр Вярбіцкі**

# Чалавек без карэнняў — безабаронны

**З Казімежам ДЭРКОЎСКІМ, дырэктарам Аддзела культуры, спорту і турызму Ваяводскай управы ў Беластоку, гутарыць Ада ЧАЧУГА.**

***— Нядаўна ў Чанстахове адбыўся Агульнапольскі кангрэс культуры вёскі, у якім — у складзе дэлегацыі ад Беластоцкага ваяводства — былі і Вы. Скажыце, калі ласка, хто прадстаўляў на кангрэсе так званую культуру вёскі?***

— Вельмі шырокі круг мясцовай грамадскасці. У дыскусіі выказваліся сяляне, войты, бурмістры, солтысы, леснікі, настаўнікі, члены гуртКоў вясковых гаспадынь, члены добраахвотных пажарных дружынаў, палітыкі, паслы, лекары, аніматары пляцовак культуры, дзеячы самаўпраўленняў, бібліятэкары. Агулам у кангрэсе ўдзельнічала больш 400 дэлегатаў з цэлай краіны і была гэта сацыялагічная рэпрэзентацыя вёскі. Наведалі кангрэс Адам Струзік, маршалак Сената, Вальдэмар Паўляк, прэзас ПСЛ, Юльюш Браун, старшыня сеймавай камісіі культуры і сродкаў масавай інфармацыі, а Здзіслаў Падканьскі, міністр культуры і мастацтва патранаваў кангрэсу. Я працаваў у камісіі адукацыі ў вясковым асяроддзі.

***— Якія праблемы хвалявалі ўдзельнікаў кангрэса?***

— Перш за ўсё гэта быў непакой пра самабытнасць польскай культуры на вёсцы. Пра гэта гаварылі навукоўцы, рэгіяналісты, сяляне. Нельга адкладаць культуру на лепшыя часы! — сцвердзіў Анатоль Амельянюк, галоўны арганізатар кангрэса, старшыня Агульнапольскай рады рэгіянальных таварыстваў культуры. Як вынікала з даклада праф. Леана Дычэўскага з Люблінскага каталіцкага універсітэта, народная культура сёння — гэта „спустошаны агарод". Культурная спадчына — пад пагрозай знішчэння. На нашых вачах паміраюць помнікі культуры. Пагражае нам культура **ніякая**, а нават **антыкультура**. Дыскутанты гаварылі аб **камерцыялізацыі** культуры, непакоіліся пра выхаванне дзяцей і моладзі, крытыкавалі прадмет сексуальнага выхавання ў школах, які мае быць уведзены Міністэрствам нацыянальнай адукацыі.

Звярталася таксама ўвага на ўзровень і рэпертуар праграмаў тэлебачання. Дыскутанты патрабавалі належнага месца польскай культуры і народнаму мастацтву. У апошні час, як вядома, большасць часу на антэне адводзіцца прапагандаванню ўзораў заходняй культуры.

У сваім выступленні міністр Здзіслаў Падканьскі асабліва падкрэсліў ролю польскай культуры ў будучым Еўрапейскім Саюзе, надаючы вялікае значэнне самаўпраўленням у ахове культуры.

Прафесар Дарота Сіманідэс з Апольскага універсітэта, сенатар, гаварыла аб заніканні традыцыйных сувязей на вёсцы, якія часта выкарыстоўваюць розныя секты, нярaз злачыннага характару. **Чалавек без карэнняў — безабаронны.** Гаварылася, што палякі не ведаюць свайго гімна, бо яго не спяваюць. Робіць гэта за іх тэхнічная апаратура.

Вальдэмар Паўляк сцвердзіў, што ўзоры і аўтарытэты трэба вышукоўваць у найбліжэйшым асяроддзі, каля сябе, а Юльюш Браун канстатаваў ажыўляючую ролю рэгіяналізму.

Што датычыць будучыні, дык гаварылася пра новую культуру вёскі, пра сучасны рэгіяналізм, пра творчыя пошукі новага жыцця вёскі, пра ўвядзенне ў школы падручніка аб рэгіёнах, пра ўтварэнне ў гмінных бібліятэках цэнтраў інфармацыі аб рэгіёне, пра стварэнне ў гмінах суполак: войт ці бурмістр, пробашч, дырэктар школы, камендант паліцыі, дырэктар асяродка культуры, прэзас рэгіянальнага таварыства — з мэтай маналітнага выхаваўчага ўздзеяння на мясцовую грамадскасць.

***— Ці ў дэлегацыі Беластоцкага ваяводства, якую складала пяць чалавек, быў хоць адзін прадстаўнік беларусаў Беласточчыны, вясковая культура якіх мае цалкам немалое значэнне ў культурным краявідзе рэгіёна?***

— Не было, бо не былі выбраны. Перад кангрэсам культуры вёскі, на Беласточчыне адбыліся сустрэчы рэгіяналістаў, якія мелі выбраць дэлегатаў на Рэгіянальны сеймік Падляшша ў Хлявісках каля Седльцаў і на кангрэс. На форуме рэгіяналістаў прысутнічаў старшыня БГКТ Ян Сычэўскі, а на сейміку ў Хлявісках — Віктар Швед.

***— Ці ў святле лозунга „Чалавек без карэнняў — безабаронны" беларуская вёска Беласточчыны не адчула сябе яшчэ больш безабароннай пасля гэтага кангрэса (дзе пра яе не было і слова)?***

— Ну, што ж, сапраўды на кангрэсе забракла меншасных галасоў. Наогул не гаварылася пра культуру нацыянальных меншасцей, пражываючых у Польшчы. Звярталася ўвага на справы культурнай тоеснасці польскай вёскі, яе будучыні.

***— Дзякую за размову.***

# Гвалтаўнікі

— W tym mieszkaniu jest dosłownie burdel, — кажа суседка Касі Б. — Як ранічай іду на працу, то там пры іх доме заўсёды дзве-тры машыны стаіць.

— Так, так, — пацвярджае сказанае іншая суседка.

— Гэта гуляшчыя дзеўкі. Без перапынку *фацэтаў* прымаюць. А нам толькі прыбірай за гэтай навалаччу. І лаюцца як няхрышчаныя.

Беласток мае не адзін воблік. На вуліцы Каперніка, дзе стаяць драўляныя запушчаныя дамы, прывыклі да начных крыкаў і жахаў-страхаў. Гвалт і злачынствы тут не выклікаюць сенсацыі.

Тамару К. згвалтавалі, можна сказаць, выпадкова.

— Недзе ў восем вечара прыйшлі да нас Элька і Радэк, — кажа ахвяра. — Хацелі сёе-тое выпіць. Радэк якраз з турмы выйшаў.

— Мне грошы патрэбныя, — сказаў ён Тамары. — Сябрам *пачку* паабяцаў.

Але калі *касы* не будзе, заявіў ён, тады з Тамарай расправіцца: голую па вуліцы валачыць будзе. Каська параіла сяброўцы знайсці грошы.

— Элька і Каська пайшлі ў пакой, а я з Радкам асталася ў кухні, — успамінае Тамара.

Радак прыставіў ёй нож да горла. Перапалоханая насмерць дзяўчына рашыла знайсці грошы. Пазычыла 50 зл. у суседа і прынесла іх незнаёмцу. Але той не адставаў ад Тамары. Пачаў яе штурхаць і насміхацца. Пазней кінуў на ложак. Якраз з'явілася і Элька. Схапіла яна Тамару за валасы і пачала „клеіць" па твары. Радак рагатаў. Элька лупіла дзяўчыну і невыносна лаяла. Затым загадала Тамары распранацца.

— А я ў шоку была, ледзь жывая, — успамінае ахвяра. Памятае як Радак пачаў выкручваць ёй рукі, пазней гвалтаваў, а Элька невыносна крычала: „Zamknij mordę, ty k...".

Па нейкім часе Элька ўгледзела бутэльку з-пад шампанскага. Найперш біла дзяўчыну гэтай бутэлькай па галаве, а пазней засунула яе ёй між ногі. Гэтую гульню паўтарыў і Радэк. Колькі ж было радасці. Гвалтаўнікі аж у захапленне прыйшлі. Даведзеную да непрытомнасці Тамару на дадатак абакралі. Забралі штаны, туфлі, дзве блузкі і рукзак.

— А як будзеш гаварыць паліцыі, — асцерагалі, — нашлем на цябе Кольку.

Гэтая пагроза падзейнічала не толькі на ахвяру, але і на Каську Б.

— Я нічога не бачыла, не чула, — паўтарае да сёння 17-гадовая Кацярына Б.

* * *

Пасля выхаду з турмы Радак завітаў да старой сяброўкі Элькі. Яна, праўда, злавала на яго і каб памірыцца, трэба было ім напіцца гарэлкі.

Пра Эльку, 32-гадовую маці шасцярых дзяцей, гавораць праз зубы.

— Taka, co w więzieniu siedziała, — характарызуе яе жыхар з суседняй вуліцы. Муж бабнік ёй папаўся. Яе, акружаную дзеткамі, для іншай пакінуў. Добра, што сяброўка з турмы да Элькі завітала. Дзеткам наварыць, у хаце прыбярэ. А Радэк — *гамняк* пры ёй. Дваццаць гадоў хлапчаку будзе, усё жыццё перад ім яшчэ. І тая Каська дурная нейкая. Нават *падставоўкі* не скончыла.

— Ёй абы выпіўка і каб *фацэты* на замежных машынах пад хату пад'язджалі. І маці такой не дагледзіць. Ужо два гады будзе як заграніцу зарабляць паехала. Зараз у Каські новая сяброўка, Эўка. І з гэтай, як раней з Тамарай, па начах балюе. Аж сорам каму сказаць, — каментуюць суседзі.

**Ева Сцепанюк**

PS. Справа Тамары якраз цягнецца ў судзе. Імёны герояў зменены. Апісаныя гвалтаўнікі прабываюць у арышце.

# Адкрыццё XVI Фестывалю царкоўнай музыкі ў Гайнаўцы

У нядзелю 25 мая а 18-й гадзіне ў Саборы Святое Тройцы ў Гайнаўцы распачаўся XVI Фестываль царкоўнай музыкі. Пасля кароткага ўступнага набажэнства голас узяў дырэктар Фестывалю Мікалай Бушко, які на пачатак афіцыйнай часткі прывітаў дастойных гасцей — так з Польшчы, як і з-за мяжы. Першым узяў голас мітрапаліт Варшаўскі і ўсяе Польшчы Васілій; было гэта выступленне рэлігійна-рэфлексійнага характару. Пасля выступіў упаўнаважаны прэм'ер-міністра Рэчы Паспалітай па справах нацыянальных меншасцей, віцэ-міністр культуры і мастацтва Міхал Ягела. Міністр сказаў, што Фестываль з'яўляецца не толькі мастацкай ці рэлігійнай падзеяй, але з увагі на месца, дзе сутыкаюцца культуры і рэлігіі, таксама падзеяй грамадскай. І менавіта з увагі на апошняе міністр запэўніў, што Фестываль будзе карыстацца падтрымкай улад. Міністр Ягела пажадаў, каб Фестываль быў вечны, так як вечнай ёсць рэлігія, а таксама склаў словы падзякі дырэктару Мікалаю Бушко.


*Сабор Святой Тройцы ў Гайнаўцы.*

Беластоцкі ваявода Анджэй Гаеўскі адзначыў культурастваральную ролю Фестывалю. Гаспадар Сабора а. Міхал Негярэвіч звярнуўся да прысутных з просьбай шанаваць *sacrum* — святое. Адкрыла Фестываль, перш сказаўшы кароткую інфармацыю пра задачы хрысціянізацыі, мэр Гайнаўкі спадарыня Ядвіга Рудзінска-Патэюк.

Інаўгурацыйны канцэрт далі два мінулагоднія лаўрэаты: хор беластоцкай Медыцынскай акадэміі пад кіраўніцтвам Бажэны Савіцкай і Ансамбль царкоўнай музыкі пры Варшаўскай камернай оперы пад кіраўніцтвам а. Ежы Шурбака.

У конкурсных змаганнях запланавана выступленні 39 хароў з Кеніі, Грэцыі, Балгарыі, Румыніі, Чэхіі, Украіны, Расеі, Фінляндыі, Латвіі, Беларусі і Польшчы.

На адкрыцці Фестывалю прысутнічалі яшчэ м.інш. архіепіскап Пермскі Афанасій з Расеі, Генеральны консул Рэспублікі Беларусь у Беластоку праф. Міхаіл Слямнёў, а таксама прадстаўнікі спонсараў. Галоўным сронсарам Фестывалю з'яўляецца Міністэрства культуры і мастацтва РП. Апрача згаданага Міністэрства Фестываль падтрымалі некаторыя фонды, банкі, самаўрады Гайнаўшчыны, прадпрыемствы з праваслаўнай Беласточчыны, а таксама прыватныя асобы з Польшчы, Швейцарыі і Беларусі. Патранат над Фестывалем узялі ў гэтым годзе Польскае радыё з Беластока і Польскае тэлебачанне з Варшавы.

Паслухаць інаўгурацыйныя выступленні мінулагодніх лаўрэатаў з'явілася шмат людзей, не толькі праваслаўных; сабор быў шчыльна запоўнены. Каму не надта хацелася слухаць рэлігійных спеваў, тыя на царкоўнай плошчы гутарылі пра куплю новых аўтамабіляў, не надта хвалюючыся тым, што другія прыйшлі сюды дзеля духовага ўзбагачэння — не ўсе ўсвядомілі далікатны напамін настаяцеля Сабора. А вось у прытворак прыйшлі дзве бабулькі, пастаялі крыху і адна кажа другой:

— Пайшлі дадому; чаго мы тут, старыя, тырчэць будзем...

**Аляксандр Вярбіцкі**

# Узнясенне Гасподняе

Пасля ўваскрэсення Ісус Хрыстос яшчэ сорак дзён з'яўляўся вучням і гаварыў ім пра Царства Божае. Паказаўся Ён звыш пяцістам вучням і, сабраўшы іх на гары непадалёк Галілейскага мора, загадаў ім: „Ідзіце, навучыце ўсе народы, хрысцячы іх у імя Айца і Сына і Святога Духа, вучачы іх выконваць усё, што Я запаведаў вам; і вось, Я з вамі ва ўсе дні да сканчэння веку" (Мф., 28: 19-20).

Набліжалася яўрэйскае свята Пяцідзесятніцы і адзінаццаць вучняў Ісуса вярнуліся з Галілеі ў Іерусалім. У саракавы дзень пасля ўваскрэсення сабраліся яны ў адным доме і там з'явіўся ім Ісус, які сказаў: „Ідзіце па ўсім свеце і прапаведуйце Евангелле ўсім жывым. Хто будзе вераваць і хрысціцца, выратуецца; а хто не будзе вераваць — асудзіцца" (Марк, 16: 15-16). Ісус загадаў ім не пакідаць Іерусалім і чакаць абяцанага ад Айца сашэсця Святога Духа. Вучні запыталі ў Яго: „Ці не ў цяперашні час, Госпадзе, аднаўляеш Ты царства Ізраілю?" і ў адказ пачулі: „Не ваша справа ведаць час або тэрмін, якія Айцец устанавіў сваёй уладай, але вы атрымаеце моц, калі сыдзе на вас Дух Святы і будзеце Мне сведкамі ў Іерусаліме, і ва ўсёй Іудзеі, і Самарыі, і нават да краю зямлі" (Дз. Ап., 1: 5-8).

Пасля гэтай гутаркі з вучнямі Ісус Хрыстос падняўся перад іх вачыма на неба. Воблака засланіла Яго і стаў Ён нябачным. Такім чынам Гасподзь і Збавіцель наш узнёсся Сваёй чалавечнасцю на неба і сеў праваруч Бога, Айца Свайго. Вучні пакланіліся і, калі ўзіраліся на неба ў чаканні Яго нага вяртання, нечакана перад імі з'явіліся два мужы ў белым адзенні. Былі гэта анёлы, якія звярнуліся да вучняў са словамі: „Гэты Ісус, што ўзнёсся ад вас на неба, прыйдзе такім самым чынам, якім і бачылі вы, калі Ён узыходзіў на неба" (Дз. Ап., 1: 11). Вярнуўшыся ў Іерусалім з Елеонскай гары Апосталы сабраліся ў святліцы, дзе маліліся і чакалі дароў Святога Духа. Былі з імі некаторыя жанчыны і Марыя, маці Хрыста, са сваімі роднымі. У гэтых днях, молячыся, Апосталы выбралі з ліку іншых вучняў шляхам жараб'ёўкі дванаццатага Апостала, Матфея, на месца загінуўшага здрадніка Іуды.

Узышоўшы на неба Ісус Хрыстос нябачна прысутнічае сярод веруючых у Яго. Прыйдзе ён на зямлю бачным спосабам, каб судзіць жывых і памерлых, якіх уваскрэсіць. Пасля гэтага пачнецца вечнае жыццё, якое для богабаязных людзей будзе поўнае радасці, а для няверуючых — вечным асуджэннем.

У Біблії Царква часта параўноўваецца да дома, у якім Ісус Хрыстос называецца пакладзеным Богам краевугольным каменем. Мы павінны быць тымі камянямі, якія кладуцца ў грунт — у грамадскасць. Бог — стваральнік, будаўнік — хоча нас учыніць жывымі членамі Сваёй Царквы, каб мы маглі радасна ісці назначанай Ім дарогай, адчуваючы бяспеку ў Яго міласэрнасці. Аставаймася вернымі нашай Святой Праваслаўнай Царкве, якая вучыць нас Слову Божаму. Усялякая чалавечая пышнасць праміна бы тая трава, якая вяне. Але Слова Гасподняе трывае вечна!

Узнясенне Гасподняе нашага Ісуса Хрыста адзначаецца Праваслаўнай Царквою як адно з ліку вялікіх святкаванняў на саракавы дзень пасля першага дня Пасхі (сёлета — 5 чэрвеня).

**Апрацаваў Міхал Мінцэвіч**

# Новыя вершы

**Барыс Руско**

## Асіметрыя

Гаворыш,
а словы гразнуць у ілюзіі.
Паказваеш на мігах
нейкі змест,
а я не кемлю.
У ноч уцякаеш,
а след зацерла
непрысутнасць.
Чакаеш,
а думкі,
як дажджу кроплі,
убірае
порыстая глеба.
З'явіўся я,
а на стале тваім
выстаўлены рахунак.

## Матэрыя

Любуюся кветкамі,
рэкамі
скаламі,
жанчынамі,
матылямі —
у ветры,
у маланцы
і ў колерах святла.
А ўсё плыве між пальцамі,
быццам цень пустэльніка
на сцяне пячоры.

## Свабода

Выцягнуць бы рукі
за сцяну маўчання
і жывым наведаць
пра душэўны зрух,
па паверхах гойсаць
у начной кашулі
і ўваскрашэнне
сваё аб'явіць.
Ды сцяна глухая,
мёртвыя паверхі,
а я — крыж на грудзі —
сапраўды жыву.

# На фэсце ў Жыровічах


*У час акафіста багамольцы запоўнілі ўвесь манастырскі двор.*

* * *

*Хрэсны ход з Успенскага сабора да Багаяўленскай царквы.*



[1 → працяг]

Адно можа хто зблізу прыйшоў, у каго не было на чым пад'ехаць.

— А да нас сюды і *ўласці* прыязджалі. Быў Кебіч, а летась Лукашэнка прылящеў у верталёце. Вунь там, на манастырскім пляцы прызямліўся. Сустракалі яго кветкамі, а ён так прыгожа з людзьмі абыходзіўся, гаварыў, пытаўся як жыццё.

— Во, так каля мяне стаяў, як вы цяпер стаіце, — паказвае выцягнутай рукою цётка, — метраў два, не больш. Відны такі чалавек і да сабраных сардэчна звяртаўся. І народ яго прымаў вельмі добра.

— Я ўжо некалькі ўладаў пражыў, — дадае дзядзька, што стаіць побач, і польскую, і нямецкую, і савецкую. За кожнай трэба было працаваць і неяк жыць, але скажу вам, што цяпер свая беларуская — самая лепшая.

**Мікола Ваўранюк**
*Фота аўтара*

# 400 метраў канцэрагену

Аварыі водаправода ў Белавежы не рэдкая з'ява. Мінулай зімой трубы лопалі некалькі разоў у розных месцах. Але апошняя аварыя прынесла жыхарам мястэчка нечакана карысную, хаця і патрасаючую інфармацыю. Дырэктар Ваяводскай установы кансервацыі меліярацыйнага абсталявання ў Беластоку-Засцянках, якая вядзе эксплуатацыю белавежскага водаправода, паінфармаваў публічна, пры нагодзе адказу на крытыку ў адрас кіраванай ім установы, што 400 м водаправода на вул. А. Вашкевіча збудаваны з азбестава-цэментавых труб. А не ад сёння ж вядома, што азбест выклікае захворванне ракам.

Вестка гэтая хутка разнеслася па Белавежы, людзі спалохаліся не на жарты. Справай занялася Рада гміны. Ніхто не аспрэчвае думкі, што канцэрагенны (ракаўзбуджальны) адрэзак водаправода трэба неадкладна выменіць. Уся праблема ў грашах — адкуль іх узяць на неабходны рамонт.

Пакуль што дзесяткі, а мо і больш сем'яў атручваюць сябе. Найгорш, што зусім свядома. Але, вазьмі і абыдзіся без вады!

**Пётр Байко**

# Беднага не любяць

У Міхалове памёр чалавек. Людзі гаварылі, што ад перапою. Можа і так. Але чаму ж не пахаваць яго паводле хрысціянскай традыцыі? А тут ксёндз заявіў, што ў касцёл не пусціць. На могільнік прыйшоў, заспяваў, пакрапіў магілу, узяў 150 злотаў і пайшоў. Цікава, ці Бог бедных таксама не любіць, так як святары? Святое Евангелле гаворыць зусім другое, што Бог любіць аднолькава ўсіх людзей, а хрысціянства — гэта рэлігія для тых, якія гатовыя выбачаць і любіць іншага чалавека.

**Дзядзька Захар**

# Сусед

Як прыемна глядзець, калі суседзі згодна жывуць, калі адзін аднаго запрашаюць да сябе ў госці, нягледзячы на веравызнанне. Тут, на ўсходняй сцяне, жывуць розныя людзі. Яны ніколі ні з кім не сварацца, заўсёды стараюцца як-небудзь залагодзіць тыя канфлікты, якія выклікаюць у нас палітыкі ў вярхушцы. Ім не даспадобы тое, што адзін быў камуністам і належаў да ПАРП, а падабацца другі, які быў членам ЗСЛ, хаця таксама быў заўзятым камуністам. Цяпер, калі камуна пацярпела паражэнне і не мае ўжо ўплыву на людзей, той член ЗСЛ падняў свае рогі і хацеў бы ўсіх парпаўскіх камуністаў выразаць, бо яны яму вельмі перашкаджаюць у ягоным цяперашнім жыцці. Даў ён рады падлізацца хабарамі да лекараў і атрымаць сабе першую групу інваліднасці, перапісаць гаспадарку на дзяцей, якую надалей як вол абрабляе. Дзеці там часам жывуць у горадзе і толькі калі-нікалі прыязджаюць дапамагчы бацьку.

Вось якія людзі трапляюцца на ўсходняй сцяне. Ім было вельмі добра пры камуне, бо і тады яны не баяліся нічога, а цяпер ізноў абнялі уладу ў нашым асяродздзі.

Такіх людзей трэба вельмі асцерагацца ды з імі ніколі не завязваць ніякай суполкі. Яны нас вельмі хутка загубяць.

**Мікалай Лук'янюк**

# Заўзятая Ксеня

Ксені ўжо гадоў пад шэсцьдзесят, але калі едзе да лекара, то здаецца, што яна ледзь жывая. Так умее прыкінуцца. Але калі сустрэнецца з кімнебудзь на прыпынку ПКС, дык так распусціць язык, што стракатала б цэлы дзень як з кулямёта. У вёсцы ўсе людзі паводле яе кепскія. Яна кожнага абгаворыць, з кожным пасварыцца і кожнаму ў гаршок загляне. А потым бяжыць да другой суседкі і расказвае, што тая не ўмее варыць, хаця ў сябе Ксеня вельмі часта так прыпаліць бульбу, што нават сабака не хоча есці.

Аднойчы зранку пяць разоў бегала Ксеня да суседкі дапытвацца як зрабіць амлет, але калі паклала яго на патэльню смажыць, ізноў пабегла хваліцца, што вельмі добры амлет удаўся і ў суседкі крышку засядзелася. Калі вярнулася дахаты, убачыла кухню ў дыме, а па амлеце і след прапаў — ператварыўся ў вугаль.

Такую Ксеню лепей не пускаць у хату, бо ўсё выпытае, абгледзіць, а потым усё перакруціць ды усёй вёсцы раскажа.

Мужык Ксені, Нікіфар, так баіцца свае жонкі, што сядзіць як мыш пад венікам, але языком так навучыўся трапаць, што праўда заўсёды бывае на ягоным баку.

Калі хочаце жыць згодна ў сям'і, дык абавязкова абмінайце тую Ксеню і нічога ёй не гаварыце.

**Мікалай Лук'янюк**

# Дапамога фонду

Заснаваны некалькі гадоў таму Фонд Белавежскай пушчы накоплівае пастаянна грошы з розных крыніц, каб потым успамагаць імі розныя праэкалагічныя інвестыцыі, якія выконваюцца на тэрыторыі пушчанскіх гмін — у асноўным у Белавежы, Гайнаўцы, Нараўцы і Дубічах-Царкоўных. Я папрасіў у старшыні праўлення Фонду інж. Войцеха Нядзельскага даць некалькі прыкладаў такой дапамогі. І, вось, яны:

Белавежа атрымала 13 604,65 зл. на збудаванне газаўстаноўкі ў мясцовым дзіцячым садзе. Нараўка ў сваю чаргу пакарысталася сумай 12 388,50 зл. на пабудову рэдуктара ціску газу прапан-бутан і газаправодный сеткі. Гміна Дубічы-Царкоўныя ўзяла 11 848,01 зл. на мадэрнізацыю кацельні з вугальнай на газавую ў лагерным асяродку Старына. У пакрыўджаных не асталася і гміна Гайнаўка. Ёй перададзена 11 тыс. зл. для скарыстання пры пабудове гідрафорні ў Арэшкаве.

**Пётр Байко**

# Кніга ганьбы яшчэ раз

Яшчэ і яшчэ раз гартаючы дакументальную „Кнігу ганьбы" ў пошуках розных прозвішчаў і падзей недалёкай нашай мінуўшчыны па просьбе розных людзей, наткнуўся я на сітуацыю, у якую цяжка паверыць. А калі гэта няпраўда, што там напісана, дык падвойная ганьба тым, хто паліў нашы вёскі з іх народам і жывёлай. Асабліва падраздзяленням „Лупашкі". А калі праўда, тады ганьба кляйміць і іншых.

Менавіта, на 70-й старонцы зверху ёсць заўвага, дзе напісана: „Nigdy o tym nie słyszałem, bo chyba nie jestem zagłębiony w najnowszą historię bratobójczych walk, że oddział AK na Wileńszczyźnie pod dowództwem „Łupaszki" składał się z Tatarów. Pierwszy raz usłyszałem o tym dnia 12 grudnia 1994 r. w TVP, w porannych „Wiadomościach". Ciekawe! Ciekawe co na to powie Maciej Konopacki, ortodoksyjny Tatar, który jest nie na żarty związany z Białorusinami i białoruską kulturą? A teraz okazuje się, że jego bracia palili białoruskie wsie z ich narodem? A może jest to próba szukania „kozła ofiarnego" chociaż dla jednego ugrupowania Armii Krajowej w jej, niestety, nie zawsze chlubnej działalności, szczególnie w okresie powojennym — WP".

Працытаваў я цэлы абзац, каб менавіта Мацей Канапацкі мог да гэтага аднесціся не купляючы кніжкі, якая ёсць у БГКТ. Мяне вельмі цікавіць гэтая справа. Зрэшты, не толькі мяне, бо гэта вельмі балючая праблема. Я званіў аднаму з жыхароў Беластока, каб пагаварыць на гэту тэму пры сустрэчы, але хіба ён не выказаў такога жадання, бо не зарэагаваў на маю просьбу. Так, гэта быў татар, бо я запытаў.

Знаючы характар і сумленнасць Мацея Канапацкага ведаю, што ён не прамаўчыць, калі чытае „Ніву", а „Ніва" захоча гэта надрукаваць.

**Васіль Петручук**

# Радзіма — Родзіна

**Частка LXX**

Уважліва прыслухоўваючыся да прызнанняў сваіх размоўцаў з усходняй Беласточчыны, пераканаўся я, што мясцовыя беларусы горача прывязаны да сваіх палёў, лугоў, лясоў, рэчак, родных хат, вёсак і аколіц. Адным словам заўважаецца моцная эмацыянальная сувязь з „малой айчынай", хаця практычна ніводзін з маіх вясковых размоўцаў не ўжываў тэрміну малая айчына. Пры гарачай адданасці „роднай старане" вельмі слаба мае размоўцы акцэнтавалі любоў да „вялікай айчыны", гэта значыць да ўсёй Беларусі. І патрэбны былі доўгія размовы, дапаможныя пытанні, а нават свайго роду псіхічны прэсінг для таго, каб дамагчыся ад беларуса з усходняй Беласточчыны пэўнай дэкларацыі аб любові да ўсёй Беларусі. Такі стан рэчаў тым больш дзіўны, што амаль усе мае размоўцы старэйшага пакалення падкрэслівалі агульнапольскі патрыятызм палякаў ці агульнарускі патрыятызм рускіх. Кідалася ў вочы і яшчэ адна з'ява. Заключалася яна ў тым, што мае размоўцы вельмі свабодна і спантанна выказваліся на тэму сваёй прывязанасці да „малой айчыны" і з вялікімі цяжкасцямі, а нават свайго роду нежаданнем рэагавалі на пытанні, звязаныя з „вялікай айчынай".

Зразумела, што няма ў мяне найменшай прэтэнзіі да беларусаў з усходняй Беласточчыны за іх „патрыятычную непаўнацэннасць". Вядома якія прычыны паўплывалі на такі стан рэчаў і якую ролю ў гэтым сумным працэсе адыгралі моцная суседнія нацыі і іх дзяржаўныя сістэмы. Зразумела, што маю на думцы перад усім Расію і Польшчу. Палохае мяне не толькі мінулае але і сённяшняе. Вядома, што ў гістарычным мінулым Польшча і Расія пры дапамозе духоўнай і мілітарнай экспансіі стараліся поўнасцю падпарадкаваць сабе Беларусь і ўключыць яе ў склад сваіх дзяржаваў. І вядома, што гэтым двум народам, то Польшчы, то Расеі ўдавалася гэта на працягу цэлых стагоддзяў. А калі на пачатку XX стагоддзя аказалася, што сілы гэтых дзяржаў сталі раўнаважнымі, тады абедзве дзяржавы ў Рызе ў 1921 годзе разарвалі на дзве часткі арганізм беларускага народа і беларускую этнічную зямлю, далучаючы іх да сваіх дзяржаў, не лічачыся ў найменшай ступені з інтарэсамі беларускай нацыі. З жахам сцвярджаю, што і сёння, нягледзячы на ўсе гістарычныя навукі, выступаюць рэлікты старога мыслення як у аднаго, так і ў другога нашага суседа. У сённяшняй Беларусі выразна выступае руска-польскае спаборніцтва за ўладарства над беларускімі душамі ў Беларусі.

Слаўны каталіцкі ксёндз Чарняўскі з Вішнева ў Валожынскім раёне, які на працягу многіх гадоў вядзе змаганне за беларусізацыю касцёла ў цэнтры Беларусі, меў і мае вялікія клопаты, якія выклікае так званая польская грамадская думка. Сітуацыю ксяндза Чарняўскага ведаю не з плётак, а толькі з балючых выказванняў самога ксяндза.

Прагну прызнацца, што не спадзяюся на пазітыўную дапамогу для ідэі незалежнасці Беларусі з боку рускіх. Па-мойму, амаль усе грамадскія рускія класы характарызуе імперыяльнае мысленне. І ў такой сітуацыі нельга спадзявацца ад рускіх падтрымкі для ідэі поўнай незалежнасці Беларусі. Прабіваючыся да Балтыкі і будуючы Санкт-Пецярбург Пётр Вялікі прарэзваў марское акно ў Еўропу. Сённяшнія валадары Расіі, апаноўваючы Беларусь прагнуць мець сухапутныя дзверы ў Еўропу.

Больш затое спадзяюся ад палякаў. Яны самі мучыліся больш як сто гадоў у рускай няволі і таму павінны разумець незалежніцкія беларускія імкненні. Веру, што ў Польшчы ўзнікне палітычная арыентацыя, якая безумоўна падтрымае тых беларусаў, якія будуць імкнуцца да поўнай незалежнасці ды еўрапеізацыі сваёй краіны. Сніцца мне поўнасцю незалежная і суверэнная Беларусь. Такая, у якой лёс краіны вырашацца будзе не яе суседзямі, а толькі яе ўласнымі сынамі і дочкамі. Такія вывады раблю з цыкла „Радзіма — Родзіна".

**Алесь Барскі**

# Позірк у мінулае

**8 чэрвеня**

632 г. — памёр Магамет, заснавальнік мусульманства. Нарадзіўся ён у 570 г. у Мекцы, важным гандлёвым цэнтры на захадзе Аравіі. Бацька будучага прарока памёр перад яго нараджэннем, а маці шэсць гадоў пазней і малы Магамет папаў пад апеку свайго дзеда, які ў 578 г. стаў племянным старастам. Калі Магамету споўнілася 25 гадоў, стаў ён на працу ў багатай удавы Хадзіі і неўзабаве ажаніўся з ёю. Нарадзіліся ім два сыны, якія памерлі незадоўга пасля родаў, і чатыры дачкі. Каля 610 г. у пячоры каля Меккі Магамет меў відзежу, у час якой ён быў прызваны прапаведаваць новую веру. Наступныя адкрыцці, якія бачыў ён на працягу свайго жыцця, саставілі змест Карана. Спачатку прыватна, а затым адкрыта пачаў Магамет прапаведаваць, што з'яўляецца ён праракам, прызваным напамінаць людзям пра Божую дабрыню і папярэджваць іх аб Судным дні. Жыхары Меккі прыязна ўспрымалі Магаметаў манатэізм і іканаклазм, і пакуль жыў яго дзед, мог ён прапаведаваць бесперашкодна, хаця не ўсе ставіліся да яго прыхільна. Аднак у 619 г. дзед памёр і дзедаў наследнік варожа ставіўся да вучэння Магамета. У той жа час спасцігла яго і другая бяда — памерла і Хадзія. У новай, нялёгкай абстаноўцы Магамет і каля сямідзесяці яго вучняў прынялі рашэнне аб бежанстве ў Медыну. Гэтае бежанства, названае хіджрай, адбылося ў 622 г., які і лічыцца пачаткам мусульманскай храналогіі. З 624 г. члены мусульманскай абшчыны сталі маліцца з тварам, скіраваным у напрамку Меккі, дзе знаходзіўся свяшчэнны камень Кааба, які, паводле Магамета, збудаваў Аўраам разам са сваім сынам Ісаакам. У Медыне Магамет, які стаяў на чале сваёй абшчыны, хутка стаў і загадчыкам горада. Нападзенні на караваны мекканцаў вызвалі вайну, у ходзе якой абаронцы Медыны вытрымалі ў 627 г. аблогу дзесяці тысяч праціўнікаў. Паступова змаганне стала гаснуць і ўжо ў 628 г. падчас перамір'я адбылося першае паломніцтва ў Мекку, а мір быў дамоўлены ў 630 г. У сакавіку 632 г. Магамет захварэў і ў чэрвені таго ж года памёр.

**9 чэрвеня**

373 г. — памёр Яфрэм Сірын, сірыйскі пісьменнік і паэт. Народжаны каля 306 г. у Малой Азіі, быў названы сірыйскім прарокам. Пісаў пераважна на рэлігійныя і гістарычныя тэмы. У Эдэсе, дзе правёў апошнія дзевяць гадоў жыцця, стварыў літаратурна-тэалагічную школу.

**12 чэрвеня**

1848 г. — разгон Славянскага з'езда ў Празе. Прадстаўнікі славянскіх народаў, жывучых у Аўстра-Венгрыі сабраліся, каб сумесна абмеркаваць сваю сітуацыю. Асаблівая ўвага была прысвечана прыгнёту славян з боку венграў. Была ўхвалена адозва да народаў Еўропы з заклікам абароны венгерскіх славян і быў прыгатаваны зварот да аўстрыйскага караля, на якога спагаду ўдзельнікі з'езда асаблівa разлічвалі. Аднак аўстрыйскі генерал Віндышгрэц разагнаў з'езд, а ў той час венгерскі генерал Грабоўскі пачаў наступленне на сербаў.

**(Ш)**

# Парнасік

## Памятайце

Памятайце, добры людзі,
Калі будзем страйкаваць,
Дабрабыту мы не створым,
А зло будзем ўкараняць.
Як на вуліцу мы выйдзем,
То работы ўжо няма.
Будзем хадзіці і крычаці —
Адаб'ецца ўсё на нас.
З нас у Амерыцы смяюцца,
Кажуць: „Добра для іх так.
Яны будуць страйкаваці,
Мы тавар ім пастаўляць".
„Прэч чырвоных і прэч белых!"
Мы пачнем тады крычаць
Іх з вярхушак выганяці,
Сабе крэслы падбіраць.
А калі на крэслы ўлезем,
Забываем аб усім,
Для сябе збіваем грошы,
Дабрабыт сабе тварым.

**Мікалай Лук'янюк**

## Пагроза для прыроды

Людзі прыроды не шануюць,
Абыякавыя і на яе плююць.
І гэта на кожным кроку,
Што ясна відаць збоку.
У хваіну вывозяць падло,
Каб смуродам і заразай ад яго нясло.
Цяжка такому выкапаць яму
І туды зваліць гэтыя хламы.
Вывозяць у лес шкло і адпадкі —
Такія, на жаль, у нас парадкі.
Ніхто гэтых жулікаў не карае,
А слабы ўрад на ўсё пазваляе.
У лесе, пры дарозе
Трэба, як на бацькавым парозе,
Каб былі чысціня і парадак;
Плацім на гэта нейкі падатак...
Гаспадар культурны —
Ён і на экалогію мудры:
На яго панадворку ўсё блішчыць,
Ён і прыродай даражыць.
А неахайны мужык —
Гультай; ён да бруду прывык.
Прырода яго не цікавіць, а смешыць,
Таму яе лёгка калечыць,
У лесе дрэвы рэжа і крадзе
І рэдка пад закон пападзе.
І з такім „парадкам" хочам увайсці
ў Унію Еўрапейскую,
Калі з прыродай абыходзімся
„па-зверскаму".
А мо тады капіталісты свабодна,
І што станецца модным,
Будуць вынішчаць найлепшы
стан лесу
І пакажуць нам трагічную п'есу:
Польшча стане эксперыментам
і калёніяй
І будзе страшней ад пародыі.
Калі ў пушчы царыла англійская
фірма,
На яе парадкі глядзець было агідна.
І ў суседняй Беларусі, аж сэрца
баліць,
Дзе парадак Лукашэнкі царыць,
Лясы і звярына вынішчаюцца датла,
І людзі скора даедуць да дна.

**Мікалай Панфілюк**

## Гаспадарку весці — не лапці плесці

Гаспадар як працавіты,
сее ўгнаенне.
Пазбірае ён на полі
і ўсё каменне.
У яго няма пачакай,
Усё робіць у свaім часе
У такога хлеба, солі,
мяса ёсць у запасе.
А хто хворы ці лянівы,
ну то не дай Божа.
І сваёй уласнай сям'і
пракарміць не зможа.
Слава Богу, што цяпер
так усюды стала,
і гаспадароў слабых
ужо вельмі мала.
А ў лепшых — трактары,
машыны, камбайны.
І ў дамах ужо відаць:
тут жыве хтось дбайны.

**Мар'я Пень**

# Крыжаванка



**Гарызантальна:** 2. моцнае жаданне піць, 4. мера, якая прымаецца для ахоўы, засцеражэння, 6. сямейства амерыканскіх акцёраў, 7. гараж для самалётаў, 9. адсутнасць вайны, 11. разгалінаванне рэчышча або рака, якая злучае два вадаёмы, 12. знак, метка, прыкмета, 13. шырокі, круглы посуд, 15. беларускі кампазітар, член журы конкурсаў „Беларуская песня", 17. падпарадкаваны папе, 18. адна з бліжэйшых нам галактык, 19. непраходная, глухая мясціна.

**Вертыкальна:** 1. калядныя песні, 2. дрэва, адно з найболей у нас распаўсюджаных, 3. адзін з электрычных полюсаў, 4. кароткі запіс, нататка, 5. краіна ў Паўднёвай Амерыцы, 6. клічка Гітлера, 8. раскацістыя гукі, 9. канец шахматнай ігры, 10. адзін іначай, 14. там апошнія летнія алімпійскія гульні, 16. прыток Лены, 17. горад у Бранскай вобласці, важная чыгуначная станцыя. **(Ш)**

Сярод чытачоў, якія на працягу месяца дашлюць у рэдакцыю правільныя адказы, будуць разыграны кніжныя ўзнагароды.

**Адказ на крыжаванку з 16 н-ра:**

**Гарызантальна:** арара, прэзідэнт, спрыт, адкос, Інд, кіпарыс, Антонаў, Кэр, апекс, гліна, Танганіка, сталь.

**Вертыкальна:** палігон, адэпт, арэна, парламент, тэктоніка, спіна, слава, іск, дар, экватар, сінус, гніль.

Кніжныя ўзнагароды высылаем **Казіміру Радошку** са Свябодзіцаў і **Анне Самборскай** з Беластока.

# ВЕР — НЕ ВЕР

Дарагі Астроне! Дрэннае маё здароўе, у бальніцу неўзабаве пайду, а там аперацыя мяне чакае. Непакоюся, баюся... А тут во перад Вялікаднем, ноччу з вялікага чацвярга на пятніцу, сон які мне прысніўся. Мы з сяброўкай у лесе, яшчэ нейкія незнаёмыя людзі, збіраем грыбы-праўдзіўкі. Іх так многа, проста ўся зямля засеяная. А ўсе невялічкія, прыгожанькія, здаровыя. Набралі мы тых грыбоў многа і бачым, што тыя, якія асталіся, ужо нейкія прысохшыя. Мы іх не бралі. Я выйшла з лесу. А тут на ўскраіне поле. На тым полі загоны, а ў роўненькіх радочках расце... каўбаса. Ды не абыякая — дарагая, падсушаная. Прыглядаемся бліжэй, а як жа — сухая кракаўская ды салямі. А як яе садзілі?! Рэзалі палкі напалавіну і саджалі ў зямлю завязаным канцом, а разрэзаным уверх. Я здзівілася, углядзеўшы гэта. Хуценька пабегла туды. Выцягнула з зямлі адзін кавалак каўбасы. Бачу: яна харошая, дык я яшчэ другі кавалак выцягнула. Тады паклікала сяброўку, каб і яна сабе каўбасы на Велікоднае свята ўзяла. Яна прыйшла і тут жа яшчэ нейкі хлопец паявіўся. Кажа, што ён галодны і хоча тут, на месцы, тае каўбасы паесці. Так і скончыўся мой сон.

Астроне! Што ўсё гэта можа абазначаць?

**Ніна**

Ніна! Усё табе ў гэтых снах снілася добрае. Спачатку былі гэта грыбы-праўдзіўкі, маладзенькія і здаровыя баравічкі. Нават калі не абазначаюць яны ў гэтым выпадку поспеху ў сардэчных справах, дык напэўна ўсё абыдзецца з тваёй аперацыяй. Адным словам, будзе поспех.

Цяпер наконт той каўбасы, што расла роўненькімі радочкамі на загонах і таксама была найлепшага гатунку — сухая кракаўская ды саламі. Каўбасу ў сне бачыць ці есці (ты яе з зямлі выцягнула ды яшчэ сяброўцы раіла ўзяць на Вялікдзень, а да таго яшчэ і той хлопец, пэўна, пад'еў) — абазначае лёгкую нажыву. Можа, нешта выйграеш, ці атрымаеш спадчыну.

А калі і выйграеш усяго здароўе, дык не пераймайся: яно найважнейшае і найдаражэйшае ў жыцці.

**Астрон**




# Ніва

**„Niwa"**, ul. Zamenhofa 27, 15-959 Białystok, skr. pocz. 149, tel./fax 435-022.
Druk: „ORTHDRUK", Białystok, ul. Składowa 9.
**Tygodnik białoruski sponsorowany przez Ministerstwo Kultury i Sztuki.**

**Рэдагуе калектыў:**

Мікола Ваўранюк, Аляксандр Вярбіцкі, Ганна Кандрацюк-Свярубская, Алег Латышонак, Віталь Луба (сакратар рэдакцыі), Міраслава Лукша, Аляксандр Максімюк, Яўген Міраковіч (галоўны рэдактар), Яўгенія Палоцкая (машыністка), Галіна Рамашка (кіраўнік канцылярыі), Марыя Федарук (машыністка), Ада Чачуга.
**Выдае:** Праграмная рада тыднёвіка „Ніва". Старшыня Праграмнай рады: Валянцін Сельвясюк.

**Prenumerata:**

1. Termin wpłat na prenumeratę na III kwartał 1997 r. upływa 5 czerwca 1997 r. Wpłaty przyjmują urzędy pocztowe na terenie woj. białostockiego i oddziały „Ruch" na terenie całego kraju.
2. Cena prenumeraty na III kwartał wynosi 13 zł.
3. Cena prenumeraty z wysyłką za granicę jest większa o 100% i przyjmowana jest tylko na okresy kwartalne. Wpłaty przyjmuje RUCH S.A. Oddział Krajowej Dystrybucji Prasy, ul. Towarowa 28, 00-958 Warszawa.

Nr konta PBK XIII Oddział Warszawa 370044-16551-2700-1-06.
4. Prenumeratę można zamówić w redakcji. Cena 1 egz. wraz z wysyłką wynosi 1,90 zł, a kwartalnie — 24,70 zł. Wpłaty przyjmuje Rada Programowa Tygodnika „Niwa", Białystok, ul. Zamenhofa 27, nr konta PBK S.A., I Oddział Białystok, 11101154-207917-2700-1-65.
Tekstów nie zamówionych redakcja nie zwraca. Zastrzega sobie również prawo skracania i opracowania redakcyjnego tekstów nie zamówionych. Za treść ogłoszeń redakcja nie ponosi odpowiedzialności.

# Ніўка

## Пародыі

**Вантробнае натхненне**

*Ноч выцякае з цябе*
*рыбкі трапечуцца за*
*частаколам рэбраў...*
*І нашу цяпер*
*вершы напісаны*
*адарваны*
*ад твайго сэрца...*

***Міра Лукша***

*У маіх вершах — сэрца насцеж...*
*У мае вершы пераліта,*
*Як кроў у вены, пачуццё...*

***Віктар Швед***

Усе вантробы мы змяшаем:
Ад шчасця, ад трывог, бяды.
І ноч праз вены выцякае —
З табой сумуем мы тады.
Садзімся побач, пішам вершы,
Трапеча сэрца за рабром.
Хоць ты ў мяне паэт не першы —
Ды ўспомню я цябе дабром.
Пералію, як кроў у вены,
Сваю паэзію табе.
Замест цябе няма замены...
Ды вось у носе штось скрабе.
Я чхнуць хачу — баліць пячонка,
А побач — кішкі граюць польку.
Злуе у хаце твая жонка:
„Ад вашых вершаў клопат толькі:
Вантробы ўраз перамяшаць —
Не верш цудоўны напісаць".

**Сяргей Чыгрын**

**Гумар з барадою**

## Жарты

**На што?**

— Цыгане, чаму ты хаты не накрыеш? Яна ж цячэ!

— Як жа яе крыць цяпер, калі дождж ідзе.

— Ну не цяпер, але тады як пагода.

— Як пагода? А тады ж нашто?

**У вагоне**

Дзядзька пытаецца ў сваёй жонкі:

— А ці добра там табе сядзець?

— Надта добра.

— А ці не холадна?

— Дый не, не трывожся.

— А з вакна не цягне?

— Ані крышку.

— Ну дык пусці мяне туды, а сама сядай на маё месца.

**Навучыцца**

— Пане, конь захварэў, не п'е зусім.

— Дык яго ў старшыны выбярыце, то і піць пачне.

*(„Наша ніва", 1909 год)*




*Малюнак В. Ключніка*

## Пераборы, пераборы...

**Сучасная байка**

Сцяпану не пашанцавала ў каханні, хоць на выгляд ён быў хлопец нішто сабе: высокі, чарнявы. Аднак дзяўчаты быццам бы не заўважалі яго. Таму Сцяпан халасцякаваў. Але лёс нарэшце ўзбрыкнуў — і Сцяпан прыкмеціў, што на яго звяртаюць увагу адразу дзве. Адна з іх, Марыля, надта ж вясёлая, прывабная. Кроў з малаком! Другая, Ганна, крыху прыродай пакрыўджаная: рабая ды яшчэ — кірпатая. Затое руплівая, як пчолка. А Марыля, хоць і красуня, ды да працы — не вельмі... бы мокрае гарыць.

Замаркоціўся Сцяпан: што рабіць? Узяць Ганну — сябры засмяюць. Дый самому маркотна. Марылю-гультайку ўзяць, век смачнага абеду не з'ясі, у брудной кашулі хадзіць будзеш. Словам, так заблытаўся Сцяпан, што спачатку вырашыў зусім не жаніцца. Але час дыктуе сваё. Ну, якое гэта жыццё, і ўсё сам ды сам... Не, немагчыма жыць аднаму...

„Трэба браць Ганну", — падумаў Сцяпан. І сабраўся ў сваты ісці. Але перад гэтым па нейкай справе на жывёлагадоўчую ферму зайшоў. І тут ён аслупянеў ад нечаканасці: насустрач яму крочыла Марыля з даёнкай у руках, у беласнежным халаце. Не крочыла, а плыла... белаю лябёдкаю.

— Ты што тут робіш? — запытаў Сцяпан.

— Даяркай раблю. Сам старшыня запрасіў. Кажа, нават надоі кароў павяліччыліся.

Назаўтра пашыбаваў Сцяпан у сваты да Марылі. Марыля развяла рукамі: спазніўся, Сцёпа. Учора распісалася з Петрусём, ён з горада сюды пераехаў.

Сцяпан, не раздумваючы, кінуўся да Ганны. Падышоў да яе двара і аслупянеў: там гаспадарыў удавец Змітрок.

— Памагаеш? — заікаючыся, спытаў Сцяпан.

— Ды во... да Ганны прыбіўся... Не баба, а — медавуха. І гя дзяцей маіх — ласачкай. Пашчасціла, браток, мне.

...Сцяпан панура плёўся па вуліцы, а ўслед яму ляцела вясёлая вясковая прыпеўка:

*Пераборы, пераборы,*
*Табе — лапці, мне — аборы...*

**Андрэй Кордзікаў**

## „Даўціпы" Андрэя Гаўрылюка

Гутараць два сябры:

— Як чуецца Янка пасля аперацыі?

— Дрэнна, ёсць складанасці...

— Штосьці сур'ёзнае?

— Вельмі: ён ажаніўся з медсястрою.

* * *

Бацька да дачкі:

— Быў тут нядаўна Грыша і прасіў твае рукі.

— І што, татка, згадзіўся ты?

— Гэты хлапец мне вельмі спадабаўся і той яго намер я выбіў яму з галавы.

* * *

У лекарскі кабінет Іван увалакае пабітага мужчыну:

— Пан доктар, памажыце! Гадзіну таму я пабіў майго зяця...

— Як вам не сорам так пабіць свайго зяця!?

— Калі я яго біў, ён яшчэ не хацеў быць маім зяцем.

* * *

— Можаш жаніцца з маёй дачкой, бо папраўдзе нічога супраць цябе не маю. Хачу толькі ведаць, ці зарабляеш столькі, каб магчы ўтрымаць дзяцей?

— То ў вашай дачкі ўжо ёсць дзеці?!

* * *

— Малады чалавек, калі хочаш ажаніцца з маёю дачкой, тады мусіш скончыць са сваімі выбрыкамі.

— Прысягаю, што гэты будзе апошні.

* * *

— Просіш руку мае дачкі... А ці маеш маёнтак?

— Яшчэ не, але спадзяюся атрымаць.

— Гэта цудоўна! А можна ведаць, ад каго?

— Ад вас, вядома.

* * *

— Дарагая! Хачу ўчыніць цябе найшчаслівейшай жанчынай у свеце. Стань маёю жонкай!..

— Я думала, што ты хочаш павесіцца... А ты маю руку просіш!?

* * *

— Добры дзень, пані прафесар! Я ваш колішні вучань Румчык...

— Ах! Прыпамінаю сабе: найбольшы хуліган у школе. Я ўвесь час гаварыла, што твае паводзіны не давядуць да дабра. Ну, і што ў цябе чуваць?

— Прыйшоў прасіць руку вашай дачкі...

## Сардэчныя тайны

Дарагое Сэрцайка! Гэтага я, дальбог, ад майго хлопца не чакала. Нават мне здавалася, што ён мяне кахае і не эгаіст. Дзе толькі не сустрэліся, дык аж пішчау, каб да мяне прытуліцца, пацалавацца. Калі ж толькі мы на нейкай прыватцы бывалі, дык мала што нас там цікавіла. Не танцавалі мы і не бавіліся ў кампаніі з усімі, а крыху пад'еўшы і выпіўшы, стараліся адасобіцца ў нейкім пакойчыку, дзе былі толькі мы, і тады нам прынамсі было вядома, дзеля чаго мы прыйшлі на гэту прыватку: часу мы, дальбог, не марнавалі. Побач быў шум, смех, піск, а нам найлепш было ў нашым зацішшы.

Зайздросцілі мне паціху дзяўчаты, што маю з кім пакахацца, ды і хлопец жа быў больш-менш пастаянны. Бо іншая мая сяброўка, дык часам ішла ў пасцель з кім папала, абы не была адна. Некаторыя гэта лічылі нават за пункт гонару: як гэта, каб нікога не прыгалубіць?! І мне было радасна, што я не мушу гэта рабіць з абы-кім, што хлопец мяне кахае.

Мае бацькі заўсёды лічылі, што (яны надта старамодныя) усялякія прываткі ў нашай хаце, патанцоўкі — усё гэта лішняе. У нашым узросце (трэці клас тэхнікума) трэба перш за ўсё вучыцца, а на іншае ёсць яшчэ час. Аднак жа, калі прыходзіў мой хлопец, бацькі прымалі яго вельмі міла. Мама заўсёды мела нешта смачнае, каб яго пачаставаць. Ведаючы, што хлопец быў прыезджы, яна старалася, каб ён адчуваў сябе ў нас, як дома.

Яда ядою, але ніколі не было такіх магчымасцей, каб сустрэцца ў нашай хаце і каб не было там нікога, апрача нас. Мама мая ўжо на рэнце, і выходзіць з хаты даволі рэдка, хіба што раніцай выбіраецца за пакупкамі. Ну, а яшчэ ж ёсць мой малодшы брат.

І тут надарылася нагода. Бацькі з братам выбраліся на вяселле да сваякоў аж у Зялёнагурскае ваяводства. Я не магла ехаць, бо ў мяне ж заняткі. Божа! — Я была ў нябёсах. — Ён жа прыйдзе да мяне і застанецца на цэлую ноч!

Я на занятках была, як п'яная. Не бачыла нікога і нічога. Жыла марамі, што вось сённяшняя ноч будзе наша. Я нават падзялілася наконт нашых планаў са сваёй найбліжэйшай сяброўкай. „Ой, глядзі ты! А што, калі бацькі вернуцца? Ну, можа ж у іх самаход сапсуецца...", — папярэдзіла яна мяне. „Не хвалюйся, — кажу я, — бацька сам усё направіць!" Так я пацешыла сяброўку, і сапраўды, нічога не здарылася, бо вечарам бацькі пазванілі мне, што даехалі шчасліва.

Я ўжо пару дзён не прыбірала ў хаце, думала, што прыбяру, калі паедуць, дык у гэты дзень пасля школы ўзялася за ўборку. Прыбрала ў пакоях, пыласосіла, памыла посуд і падлогу на кухні. Мушу прызнацца, што нават стамілася. Але прыемна было, што хлопец зойдзе ў чыстую хату. Так ужо я старалася, што нават не глянула ў лядоўку, ці там штось ёсць. Але, падумала я, не есці ж ён да мяне прыйдзе, а на каханне. Зрэшты, мама пакінула грошы, дык заўтра нешта куплю. Усё ж такі я вырашыла заглянуць у той халадзільнік. Божа! Зусім пуста, толькі слоікі стаяць з марынаванымі грыбамі ды варэннем. А калі ён захоча есці? Я глянула на гадзіннік: было ўжо позна ісці за пакупкамі.

Мае думкі спыніў званок у дзверы. Я ўся была нейкая ўзбудараджаная ад хвалявання. Нават не зусім ведала, што раблю, што гавару. Так, гэта быў ён. Прыйшоў, распрануўся. Сеў, як заўсёды, за сталом. „Хадзі сюды, на канапу!" — сказала я. А ён: „Але спачатку, бадай, дасі мне нешта перакусіць?!" „Ой, — кажу я, — а ў мяне ж нічога няма!" „Як гэта, — здзівіўся ён, — у тваёй мамы заўсёды было што паесці!" „Ну, прабач, не падумала я", — тлумачылася я, быццам вінаватая дзяўчынка.

Я ўся аж гарэла, каб ён падышоў да мяне, прытуліўся, пакаціў сваю каханую на канапу, — я ж столькі чакала гэтага моманту, — але ён быў як камень. Тады я падышла да яго і хацела пацалаваць у губы, а ён адхінуўся ад мяне ды кажа, што пойдзе кудысьці паесці (мо ў рэстаран — ён жа не з бедных), а тады прыйдзе на каханне.

Трэснуў дзвярыма і выйшаў.

Не прыйшоў, хаця я чакала да раніцы. Так я страціла хлопца.

**Тацяна**

Тацяна! Во-во, дык і я ж кажу, што да сэрца мужчыны — праз страўнік!

**Сэрцайка**